ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

29 ліпеня 1994 г. № 30 (3752) Кошт 250 руб.





## ДОБРЫ ЗНАК

*Банальна, але як хутка ляціць час... Ужо чатыры гады жывём мы ў незалежнай Беларусі. Амаль тры гады маем новыя дзяржаўныя сімвалы — адметныя сцяг і герб. Аднак здымак гэты толькі недасведчаны чытач з далёкае цывілізаванае краіны можа прыняць за архіўны. Бо ўсе мы добра ведаем: «талерантная» Беларусь жыве пакуль у іншым часе — запаволеным, замаруджаным. І тыя працэсы, якія ў іншых краінах, што выйшлі з СССР, адбыліся ў лічаныя дні, у нас не закончаны і па сёння. Урад Кебіча да апошняга не хацеў развітвацца не толькі са старымі эканамічнымі ідэямі, але і са старымі сімваламі.*

*Мажліва, гэта простае супадзенне, аднак новы ўрад пачынае працаваць у сваім доме ўжо не пад бэсэсэраўскім гербам, а пад Пагоняй. Дасць Бог і працаваць ён будзе не на ажыўленне памерлай ідэі, а на ўмацаванне самастойнай Беларусі, і тую ж інтэграцыю з Расіяй будзе разглядаць толькі з боку карыснасці яе незалежнай Беларусі. Прынамсі, першыя крокі першага прэзідэнта Беларусі пакідаюць нам надзею на тое, што ў свеце не стане менш на адну незалежную краіну — дзяржаву Беларусь...*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Пакладзены пачатак фармаванню новага Кабінета міністраў. Вярхоўны Савет зацвердзіў усе прапановы прэзідэнта, акрамя адной. Дэпутаты не захацелі бачыць на чале Канстытуцыйнага суда Дзмітрыя Булахава. Шмат пярэчанняў выклікала кандыдатура генерала Кастэнкі на пасаду міністра абароны У свой час ён быў вымушаны пакінуць службу, каб пазбегнуць абвінавачванняў у пакрывальніцтве карупцыянераў і злодзеяў у Беларускім войску. Калі пра гэта нагадалі прэзідэнту, ён, не даючы адказу, перавёў пытанне ў плоскасць нацыянальных зносін: «Вам что, не нравится, что Костенко — русский?» Хоць пра нацыянальнасць генерала гаворкі не было. Генерал Кастэнка стаў міністрам абароны Беларусі...***

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Нацыі, якая імкнецца да незалежнасці, трэба верыць у свае сілы. Калі яна пазбаўлена гэтага пачуцця, калі яна не прыкладае ўласных намаганняў для захавання свайго існавання.., то можна смела сказаць, што яна не даб'ецца ні шчасця, ні гонару, ні славы».

*Т.КАСЦЮШКА*

*(Лісток календара «Родны край» за 27 ліпеня г.г.)*

## ДАКУМЕНТ ТЫДНЯ

Надрукаваны першыя сто тысяч беларускіх пашпартоў. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар выдавецтва «Беларускі Дом друку» Барыс Кутавы. За права выканаць гэты заказ спрачаліся фірмы Германіі, Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі, ЗША. А надрукаваны пашпарты ў «Беларускім Доме друку» на імпартным абсталяванні і матэрыялах. Беларускі пашпарт адпавядае агульнаеўрапейскаму стандарту. Надпісы на трох мовах — беларускай, рускай і ангельскай. Такім чынам, Кебічава палітыка арыентацыі на Усход і тут знайшла адлюстраванне. Неверагодна, каб у новым расійскім пашпарце надпісы дубляваліся на беларускай мове. Дык навошта такія рэверансы ў бок Расіі?

## ЗВАРОТ ТЫДНЯ

З нагоды Дня незалежнасці Прэзідыум Вярхоўнага Савета звярнуўся да грамадзян Беларусі са словамі віншавання. У звароце, у прыватнасці, гаворыцца:

«У тым, што адбылося 27 ліпеня 1990 года, ёсць свая гістарычная справядлівасць. Ідэя незалежнасці — дзяржаўнай, палітычнай, нацыянальнай — мае на Беларусі тысячагадовую гісторыю. Яна адлюстравана ў статутах Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, статутных граматах Беларускай Народнай Рэспублікі, Канстытуцыі БССР і замацавана новай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Галоўны яе стрыжань — перспектыўнасць беларускай цывілізацыі, для якой аднолькава непрымальныя крайне негатыўныя тэндэнцыі як «усходняй», так і «заходняй» мадэляў развіцця. Наша мэта — дэмакратычная: прававая і гарманічна ўпарадкаваная еўрапейская дзяржава».

## КАРЭКТЫВА ТЫДНЯ

На некаторых шыльдах «вуліца Рэвалюцыйная» ў Мінску нехта акуратна пазамазваў літару «Р». Такім чынам вуліца атрымала назву, больш адпавядаючую нашай палітычнай рэчаіснасці і беларускаму менталітэту.

## СКАНДАЛ ТЫДНЯ

Расійскі ўрад нанёс моцны ўдар па Лёню Галубкову. З заявамі, у якіх АТ «МММ» абвінавачваецца ў парушэнні заканадаўства і фінансавых махінацыях, выступілі Антыманапольны камітэт, Дзяржаўная падатковая служба, Міністэрства фінансаў.

## ДЭКАМУНІЗАЦЫЯ ТЫДНЯ

Ужо распрацавана рэжысура парада ў гонар 50-годдзя Перамогі, які ў наступным годзе мяркуецца правесці ў Маскве. Гэтым разам прэзідэнт Ельцын і ганаровыя госці не будуць ўздымацца на трыбуну Маўзалея. Будзе спецыяльна пабудавана часовая трыбуна.

## НЕБЯСПЕКА ТЫДНЯ

Пасол Беларусі ў Расіі Віктар Даніленка паведаміў карэспандэнту «Звязды», што зараз ва ўладных структурах Расіі і Беларусі прапрацоўваецца пагадненне аб прадаўжэнні тэрміну знаходжання расійскіх войск у Рэспубліцы Беларусь. Лічыцца (кім?), што гэта прынясе ўзаемную карысць абодвум бакам. Калі ўлічыць, што Беларусь, згодна Канстытуцыі, нейтральная краіна і што за прысутнасць расійскіх войск на нашай зямлі Масква не плаціць нам ні капейкі, дык гэтыя планы беларускай наменклатуры можна трактаваць як здраду дзяржаўным інтарэсам Беларусі.

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

28 ліпеня ў нашу краіну прыбыў дырэктар-распарадчык Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) спадар Мішэль Камдэсю.

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Сапраўднай кульмінацыяй III-га Міжнароднага фестывалю «Славянскі базар» стаў вялікі канцэрт, прысвечаны 25-годдзю ансамбля «Песняры». Наш славуты ансамбль віншавалі калегі —госці з блізкага і далёкага замежжа. А ў афіцыйнай частцы браў удзел Старшыня Вярхоўнага Савета М.Грыб ды іншыя прадстаўнікі ўлады.

## СТРАТА ТЫДНЯ

«Аднабаковая арыентацыя на Усход прывяла да таго, што мы страцілі перспектыву велізарнага даходу за транспарт нафты ў Еўропу, і да значнага аслаблення геапалітычнага становішча Беларусі», — такая выснова зроблена ценявым кабінетам апазіцыі БНФ у сувязі з рэалізацыяй ідэі Балта-Чарнаморскага нафтавага калектара (БЧНК) без удзелу Беларусі; урады прыбалтыйскіх краін, Украіны і Польшчы, не дачакаўшыся крокаў насустрач ад былога ўрада Беларусі, вырашылі ажыццявіць ідэю БЧНК без нас. Калектар звяжа тэрміналы Адэсы і Гданьска праз Польшчу і Украіну, мінуючы Беларусь.

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

У газеце «Беларуская маладзёжная» N 6 надрукаваны артыкул Таццяны Нічыпарук «Рэарганізацыя». У ім апавядаецца пра тое, што згодна рашэнню Міністэрства аховы здароўя РБ «рэарганізаваны», а фактычна — ліквідаваны Навукова-даследчы інстытут радыяцыйнай медыцыны. У іншыя ўстановы «перакідваюцца» навуковыя кадры і медыкі-практыкі, дзеляцца шпітальныя ложкі, абсталяванне — знікае працаздольны калектыў, ставіцца крыж на навуковых доследах, патрэбу ў якіх мае не толькі паслячарнобыльская Беларусь. Пазбаўляюцца дапамогі хворыя, а іх штогод болей і болей. Спробы супрацоўнікаў НДІ РМ пратэставаць не мелі поспеху. Губляе навука, губляе Беларусь, затое чынавенства «пры справе!»

З нагоды

# ШЛЯХ У НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Напярэдадні Дня Незалежнасці на фасадзе Дома ўрада нарэшце з'явіўся Дзяржаўны герб Беларусі — «Пагоня». Пра гэта паведамілі ўсе мінскія газеты, але кожная — у сваёй танальнасці. Напрыклад, «Советская Белоруссия» дала кароткую інфармацыю (без здымка), пазбаўленую якой-небудзь эмацыйнай афарбоўкі. «Звязда» дала малы здымак старога герба (БССРаўскага) і большы — новага. «Народная газета» змясціла здымак рэпартажнага характару: рабочы момант устаноўкі герба. Але, гледзячы на яго, цяжка зразумець, ці то «Пагоню» ўсталёўваюць, ці то здымаюць... Выдатны кадр на першай паласе «Чырвонай змены» (ён мае ўсе падставы стаць «здымкам года»). Ёсць у ім сімволіка перамогі вечнага над часовым, экспрэсія, дынаміка. «Пагоня» пераможна заганяе ў глыб кадра БССРаўскую эмблему. У духу «Мы и время» пракаменціраваў падзею (здымка не было) «Вечерний Минск»: «Похоже, у Советской власти, действительно, силы на века. Об этом, в частности, свидетельствует ее герб на Доме правительства. Его, по слухам, не смогли снять даже фашисты. И поэтому завесили сверху свастикой. А вот теперь, с минувшей пятницы, герб БССР стала прикрывать 800-килограммовая «Погоня». Далей пішацца, што ва ўсім вінаваты міжнародны імперыялізм, бо «Пагоня» ўсталявана на фасадзе з дапамогай крана японскай вытворчасці.

У цывілізаванай краіне за такія паралелі («Пагоня» — фашысцкая свастыка) аўтар публікацыі і рэдактар газеты ўжо давалі б тлумачэнні пракурору. Абраза Дзяржаўнага герба — злачынства. Пра гэта ёсць адпаведны артыкул у Крымінальным кодэксе. Ну, ды хай будзе ім суддзёю Бог і ўласнае сумленне.

Тая акалічнасць, што герб БССР не дэмантаваны, а толькі прыкрыты зверху «Пагоняй», спараджае шэраг асацыяцый і трактовак. Хосьці пабачыць у гэтым сімвал пераемнасці, мірнай трансфармацыі Беларускай ССР у суверэнную дзяржаву Рэспубліку Беларусь. Хосьці — надзею, шанец для бальшавікоў выйсці аднойчы зноў на святло, аднавіць сваю ўладу і навязаць народу і краіне свае скампраметаваныя сімвалы.

Я асабіста лічу, што ў мінулую пятніцу адбылася цырымонія пахавання БССР. Шчыт «Пагоні» закрыў БССРаўскую эмблему, як нябожчыка ў труне.

Новы герб на фасадзе Дома ўрада нечакана стаў настолькі моцнай пластычнай дамінантай плошчы, так удала ўпісаўся ў канструкцыю будынка, што цяпер недарэчным успрымаецца чорны Ільіч пад нагамі «Пагоні». Калісьці я быў прыхільнікам захавання помніка перад Домам урада — як унікальнага твора, які нясе адбітак часу і надае плошчы і гораду своеасаблівую экзотыку (як, скажам, фантастычныя кітайскія пачвары на ўзбярэжнай Нявы ў Санкт-Пецярбурзе альбо егіпецкі абеліск на парыжскім пляцы Згоды). Цяпер жа бачу: трэба ўбіраць. Не пасуе, не да твару гораду. Хай стаіць дзе-небудзь у музейным двары.

Ды, мабыць, не прыйшоў яшчэ час. Мяркую так хоць бы па прамове прэзідэнта на ўрачыстым пасяджэнні з нагоды Дня Незалежнасці. Прэзідэнт спрабаваў сумясціць несумяшчальнае: нацыянальную ідэю, агульначалавечую духоўную спадчыну з «каштоўнасцямі» камунізму. Сумняваюся, што можна ставіць у адзін шэраг Ефрасінню Полацкую, Кастуся Каліноўскага і Пятра Машэрава — тых, хто абараняў Бацькаўшчыну шчырым, святым словам і зброяй, і таго, хто ў часы свайго, лічы, царавання спрыяў русіфікацыі Беларусі і падвёў нацыю да мяжы духоўнай смерці, на чыім сумленні канчатковае эканамічнае падпарадкаванне Беларусі Маскве (сённяшні крызіс бярэ пачатак якраз у машэраўскія часы, якія сёй-той лічыць «блаславёнымі»). Прэзідэнт заклікаў паважаць не толькі сённяшні, але і ранейшы дзяржаўны сцяг, які, нібыта, 70 год быў сімвалам Беларусі. Але ж БССРаўскі сцяг быў зацверджаны «бацькам народаў» у апошнія гады ягонага жыцця, на пачатку 50-х, яму ніяк не можа быць 70 год.

Прэзідэнт гаварыў аб неабходнасці мацаваць незалежнасць Беларусі і адначасова прыга-даў...» трагедыю Віскулёў»...

Але як станоўчае адзначым тое, што прамова прагучала на дзяржаўнай мове, і шэраг яе палажэнняў можна разглядаць як крок да збліжэння з незалежніцка-адраджэнскай плынню нашага грамадства.

Стан, у якім сёння апынулася Беларусь, наша краіна, я параўнаў бы са свабодным падзеннем парашутыста, які бачыць, як імкліва набліжаецца зямля, але не ўпэўнены, што ў патрэбны момант над ім раскрыецца выратавальны купал. Бо найперш псіхалагічна непадрыхтаваны да такой сітуацыі. Увесь час спадзяваўся на іншых, на кіраўнікоў. Але вось давялося пакінуць самалёт пад назвай «СССР» (даўно тая машына лятала «на чэсным слове» ды яшчэ кіравалася некампетэнтным, але вельмі самаўпэўненым экіпажам), каб разам з ім не ляснуцца долу. І цяпер тваё выратаванне — твая асабістая справа, як прынята ў свеце.

Так, свабоднае падзенне патрабуе іншага вопыту і іншага псіхалагічнага складу, і ўсё гэта давядзецца прыдбаць «паскораным курсам». захочам жыць — навучымся!

І ўсё ж, як жыццё — галоўная каштоўнасць, дадзеная Богам чалавеку, так і Незалежнасць — галоўная каштоўнасць нацыі. І грэбаваць гэтым дарам — значыць абражаць Бога. Гэта словы Васіля Быкава. Народны пісьменнік браў удзел у мітынгу, што адбыўся ў Дзень Незалежнасці ў Купалаўскім парку, ля помніка Песняру. Слова ў той дзень бралі літаратары, народныя дэпутаты, ветэраны і маладыя людзі. Новыя, больш аптымістычныя ноты адчуваліся ў выступленні З.Пазняка. Увогуле ў святочным шэсці і на мітынгу панаваў настрой спакойнай упэўненасці, аптымізму.

Хацеў бы скончыць нататкі асабістым. 50 год назад, 27 ліпеня 1944 года, загінуў пад Сувалкамі родны брат маёй маці мой дзядзька Віталь Анупрэевіч. Яму было дзевятнаццаць гадоў. 3 ліпеня ў Мінск увайшла Чырвоная Армія, 7 ліпеня дзядзьку Віталя прызвалі ў войска, 27-га ён загінуў. Я не вялікі знаўца вайсковай справы, але ж мяркую, што калі чалавека, які адслужыў усяго дваццаць дзён, а дагэтуль ніколі не трымаў у руках зброі, адпраўляюць на перадавую — дык гэта забойства. Такім жа быў лёс многіх тысяч беларускіх хлопцаў, што перажылі фашыстоўскую акупацыю. Іх, неабучаных, накіравалі пад нямецкія кулі. Чым жа правініліся яны? А тым, што на некаторы час трапілі пад фашысцкую акупацыю. «Почему вы остались живы? Ведь нам доподлинно известно, что всех патриотов немцы поубивали?» — на такія пытанні пасля вайны былі вымушаны адказваць многія жыхары Беларусі, нават калі ў вайну былі немаўлятамі. Бальшавіцкі рэжым не дараваў ім і таго, што яны былі сведкамі бяссілля імперыі, панічнага адступлення войск у 1941 годзе Таму адных небяспечных сведкаў знішчылі, кінуўшы неабучанымі на перадавую, а другіх усё жыццё трымалі за злачынцаў (ці даўно знік у асабістых справах артыкул «Находился ли под оккупацией во время Великой Отечественной войны?»

Мы — таксама сведкі, сведкі агоніі СССР. Мы бачылі, як у Тбілісі людзей забівалі рыдлёўкамі, як у Вільні давілі танкамі. Мы — небяспечныя сведкі. І нам гэта прыгадаюць, калі, не дай Бог, імперыя адродзіцца. Нам, беларусам, асабліва. Бо на нашай зямлі, у Віскулях, на імперыі быў пастаўлены крыж.

Але сёння мы маем свой шлях. Шлях у Незалежнасць.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Выставы

# ПАД ГЕРБАМ «ПАГОНЯ»

У Нацыянальным музеі гісторыі культуры працуе выстава, прысвечаная гісторыі дзяржаўных сімвалаў Беларусі. Экспазіцыя сведчыць, што бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» з'явіліся на свет не ўчора, што гэтымі святымі сімваламі асвечаны ўвесь шлях беларускай нацыі — ад старажытных часоў да сённяшняга дня.

Адначасова ў музеі разгорнута экспазіцыя зброі. Яна ахоплівае час ад IX стагоддзя да Першай сусветнай вайны. Пабачыўшы ўсе гэтыя смертаносныя прылады, няцяжка зразумець, чаму народ, якому наканавана жыць у цэнтры Еўропы і ўвесь час чакаць ліха і з Усходу і з Захаду, зрабіў сваім



гербам выяву абароны Айчыны — срэбранага рыцара на белым кані, чаму белае поле сцяга працінае чырвоная паласа крыві.

**В.БОГУШ**

*Фота А.МАЦЮША*



# ЛЕТА... КНІЖНАЕ

Бадай, ніколі не было столькі дзяцей у Рэспубліканскім выставачным цэнтры (колішняя Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі Беларусі ў Мінску), як 23 ліпеня. І гэта невыпадкова. Хлопчыкі і дзяўчынкі, чытачы старэйшага ўзросту прыйшлі сюды на Дзень беларускай дзіцячай кнігі. Адбылася сустрэча з супрацоўнікамі выдавецтва «Юнацтва», дзіцячымі пісьменнікамі. З хваляваннем слухала дзятва У.Карызну, Н.Галіноўскую, М.Пазнякова, якія гаварылі аб выданні ў рэспубліцы літаратуры для дзяцей і юнацтва, чыталі ўласныя творы. А пасля кожны з прысутных юных чытачоў атрымаў бясплатна беларускую кнігу з аўтографамі пісьменнікаў...








Дзень беларускай кнігі стаў заключным акордам кірмашу «Беларускае кніжнае лета-94», які ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры ладзілі Міжнародны камітэт кніжных кірмашоў, Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і распаўсюджвальнікаў кнігі, Акцыянернае таварыства «Міжнародны Кніжны Дом» і ВКФ «Макбел». У гэтым аўтарытэтным кніжным форуме прынялі ўдзел каля двухсот выдавецтваў, кнігагандлюючых фірм і арганізацый з Беларусі, Украіны, Расіі, Латвіі, Літвы. Адных беларускіх выдавецтваў — як дзяржаўных, так і недзяржаўных — набралася больш за пяцьдзесят!

На адкрыцці кірмашу выступілі, пра яго мэты і задачы расказалі прэзідэнт Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і распаўсюджвальнікаў кнігі С.Кузьмін, намеснік старшыні Мінгарвыканкама А.Сасноўскі, віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі, старшыня савета дырэктароў дзяржаўных выдавецтваў Беларусі В.Лукша.

У рамках кірмашу абмяркоўваліся надзённыя праблемы распаўсюджвання кнігі на тэрыторыі Беларусі і ў краінах СНД, наладжвання сумесных мерапрыемстваў.

Дарэчы, першы Міжнародны кніжны кірмаш у Мінску прайшоў у студзені сёлетняга года. На пачатак 1995-га запланаваны наступны. А цяперашні, летні, бадай, усправаецца як пацвярджэнне таго, што і ў спякотную пару можна пасапраўднаму працаваць...

**НАШ КАР.**

*На здымках: У.Карызна, Н.Галіноўская, С.Кузьміч і М.Пазнякоў на адкрыцці свята; у аддзеле беларускай дзіцячай кнігі; юныя наведнікі выставы.*

*Фота А.МАЦЮША*

# КАРАТКЕВІЧУ ЖЫЦЬ ВЕЧНА

25 ліпеня споўнілася дзесяць гадоў, як памёр Уладзімір Караткевіч. Але на душы заўсёды нейкі жаль і боль, калі перачытваеш яго творы. Балюча, што не пабачыў гэты выдатны пісьменнік пачатку Адраджэння, у якім абавязкова прыняў бы ўдзел. Дый ён і быў адным з пачынальнікаў. Мы ўсе выхоўваліся на яго кнігах. Самастойна, без розных паслугачоў.

Я дзякую Богу за тое, што калі вучыўся ў школе, творы У.Караткевіча там не вывучалі. Бо пасля «тлумачэння сэнсу твора» настаўнікам знікала ўсялякая ахвота перачытваць яго, нават калі ён напісаны вельмі шаноўным аўтарам.

Да У.Караткевіча, відаць, кожны павінен прыйсці сам, уласным шляхам. Сілком яго́ныя кнігі ніхто не павінен нават разгортваць. Аднак тых, хто жыве на Беларусі, але зусім не чытаў «Дзікага палявання...» і «Чорнага замка...», я лічу разумова адсталымі людзьмі. Вельмі жадаецца, каб такіх людзей з кожным годам меншала.

Прапаную вашай увазе верш, прысвечаны Уладзіміру Караткевічу:

**Ад Воршы да Гальшанаў,**
**Мінаючы гады,**
**Нясецца паляванне,**
**І будзе так заўжды.**

**Жыццё, як тое ззянне,**
**Стухае спакваля.**
**Прымае ўсіх пяшчотна**
**Бацькоўская зямля.**

**Нясуцца коні годна**
**А разам з імі — ты,**
**Хрыстос, што прызямліўся**
**У край наш назаўжды.**

**Руслан РАВЯКА,**
**навучэнец тэхналагічнага тэхнікума**
*г.Баранавічы*

# ВЯРНУЎСЯ НАЗАЎЖДЫ...



У дні работы музычнага фестывалю «Славянскі базар-94» у Віцебску адкрыты помнік беларускаму пісьменніку У.Караткевічу. Ва ўрачыстасці браў удзел Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб.

*На здымку: М.Грыб ускладае кветкі да помніка пісьменніку.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

Адгалоскі

# А ХТО ТАМ ІДЗЕ...

Наша інтэлігенцыя прызвычаілася ўшчуваць паспольства за грамадска-палітычную млявасць, абыякавасць ды злачынную рахманасць, але выбары засведчылі, што народ беларускі, як і належыць быць маладой нацыі, далёкі ад нірваны і на першыя свае свабодныя выбары прыйшоў абіраць не прэзідэнта (Сумленнасць, Годнасць, Прафесіяналізм), а верхаводу-валадара.

Сп.Лукашэнка прывабіў большасць не сваімі абяцанкамі-цацанкамі, а нечым недагаворыным, у якім выразна адчувалася жорсткасць ды непахіснасць. Народ — не мазахіст, але яму патрэбен зараз беларускі Бісмарк або дэ Голь — бацька нацыі, а не ганаровы цівун на пяць гадоў. Аўтарытарны лідэр — гістарычная непазбежнасць, калі мы маем усталяваць трывалую дзяржаўнасць, — хтосьці ж мусіць вырабіць з маргінальна-люмпенскага асяроддзя, да якога ўсе мы сёння належым, цывілізаванае грамадства... Іншая справа, як так сталася, што на ролю бацькі нацыі лепшы чалавек, які, бадай, не мае элементарнага нацыянальна-патрыятычнага пачуцця...

Беларуская дзяржаўна-нацыянальная ідэя маральна перамагла прарасейскі імпер-шавінізм ды тутэйшых камуністаў, але атрымала паразу ў папуліцкіх рыстаннях. Што зробіш, — няма на небасхіле беларушчыны асобы, накшталт Жырыноўскага. Беларускія нацыянальныя партыі месяцца збольшага ля палітычнага цэнтра, а па баках зеўрае пустэча. Бракуе моцнай нацыянал-папуліцкай партыі, што здолела б кантраляваць левы ды правы радыкалізм. Гэткая сітуацыя проста правакуе з'яўленне на сінявокай Беларусі сярод бульбяных палеткаў дамарослага Піначэта.

Як ні павернеш, але ўсталяванне на Беларусі ў XX стагоддзі светлай ліберальна-дэмакратычнай будучыні — адкладаецца.

Яно і да лепшага — ліберальна-дэмакратычны рэжым, усталюйся ён зараз, законсерваваў бы цяперашні стан нацыянальна-культурнага нігілізму і ўрэшце ператварыў бы Беларусь у другую Бельгію, — свабодная эканамічная зона, 50 працэнтаў расійцаў, 50 працэнтаў палякаў ды няўлоўны пах знікшых тубыльцаў.

Хоць усё гэта само просіцца пятай дзеяй у купалаўскія «Тутэйшыя» з падзагалоўкам «Незалежнасць. Трагічна-смяшлівыя сцэны», але будзьма спадзявацца на зрухі да лепшага, — першы беларускі прэзідэнт і яго ўрад прывучаць нарэшце беларускую інтэлігенцыю да самастойнасці, і трохі падкарэктуецца яе ўяўленне аб собскім народзе ды эпосе, якое яна не мяняла ад часоў купалаўскага «Мужыка» ды «Ростаняў» Коласа.

**Сяргей ШЫДЛОЎСКІ**
*г.Наваполацк*

Сустрэчы

# З МУЗЫЧНАЙ ДЫНАСТЫІ

Нядаўна слухачы пазнаёміліся з музыкай выкладчыка Гродзенскага вучылішча мастацтваў Аляксандра Чопчыца. Не часта здараецца, каб публіка з захапленнем прымала твор маладога аўтара. Аднак гэта адбылося на аўтарскім канцэрце Чопчыца: зала бурна выявяляла свае эмоцыі і патрабавала яшчэ і яшчэ раз паўтарыць песню «Скажы мне, вішня»! Аляксандр — прадстаўнік вялікай музычнай сям'і. Яго́ны бацька Адам Сідаравіч Чопчыц добра вядомы як арганізатар і мастацкі кіраўнік народнага ансамбля «Нёман», сястра і муж сястры — выкладчыкі музыкі, жонка гожа спявае, іх дзеці, беручы прыклад з бацькоў, таксама пайшлі вучыцца музыцы. Цэлая музычная дынастыя!

У юнацтве ў Аляксандра была мара паступіць на кампазітарскае аддзяленне Беларускай кансерваторыі. Яго музыку адобрылі вядучыя прафесары кафедры кампазіцыі Анатоль Багатыроў ды Яўген Глебаў. Але сямейныя абставіны не дазволілі спраўдзіцца марам. Тым не менш ён прадаўжаў пісаць музыку. На сённяшні дзень ім створана звыш 40 песень, ёсць і творчыя планы.

Песні А.Чопчыца меладычна яркія і лёгка запамінаюцца. Яны глыбокія па змесце, хоць звернуты да самай шырокай аўдыторыі. У яго тонкі паэтычны густ. На канцэрце прагучалі песні на вершы Янкі Купалы, Адама Русака, Роберта Бёрнса, П'ера Беранжэ і інш. Прынамсі, вылучылася песня «Маладая Беларусь» на вершы Янкі Купалы, якая была адаслана ў журы конкурсу на стварэнне Дзяржаўнага гімна Беларусі. Яе вызначае шырокая, стрыманая і ясная мелодыя. Упэўнены, што песня-гімн А.Чопчыца знойдзе сваё месца сярод патрыятычных твораў. Песню «Люблю лугі квяцістыя» на вершы Адама Русака агучыў на II Нацыянальным фестывалі песні і паэзіі ў Маладзечне Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам М.Фінберга. Працяг кантактаў гродзенскага аўтара з гэтым калектывам яшчэ наперадзе.

Аўтарскі канцэрт А.Чопчыца правёў эстрадны ансамбль пад кіраўніцтвам аўтара. Прыемнае ўражанне зрабілі салісты Сяргей Квашнін, Святлана Сколыш, Дзмітрый Якубовіч, Вікторыя Міхінкевіч, інструменталісты Аляксандр Пішчык (клавішныя), Міхаіл Захарэвіч (бас-гітара), Іван Кебіч (гітара сола), Сяргей Фінскі (ударныя). За раялем быў сам кампазітар.

Пажадана, каб А.Чопчыц уключаў у рэпертуар свайго вучэбнага ансамбля пераважна песні гродзенскіх аўтараў. Такі калектыў быў бы адзіным у вобласці, мяў бы уласнае аблічча, унёс бы неацэнны ўклад у прапаганду песеннай творчасці кампазітараў нашага краю. І тады, у чым я перакананы, мы адкрыем нямала новых выдатных песень, з якімі будзе не сорамна паказацца на самых прэстыжных эстрадных фестывалях.

**В.РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

ЛіМ
ЧАСАПІС



# НАРОД БЕЗ РОДНАЙ МОВЫ — НЕ НАРОД!

**Так закончыў выступленне на нядаўнім пашыраным пасяджэнні сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны старшыня ТБМ Н.Гілевіч. Пасяджэнне прысвячалася пяцігоддзю з дня ўтварэння гэтай грамадскай арганізацыі, якая годна нясе сцяг нацыянальнага Адраджэння, робіць усё дзеля таго, каб беларусы ў сваёй суверэннай дзяржаве пачувалі сябе менавіта беларусамі. Гаварылася і аб набытках, але нямала прагучала і канкрэтных прапаноў наконт таго, каб зерне, пасеянае аднойчы, і надалей давала дружныя ўсходы, а рунь, што ўзышла, каласілася дружна і шчодра.**

**На пасяджэнні выступілі таксама аргсакратар ТБМ В.Вільтоўскі, М.Савіцкі, З.Санько, галоўны рэдактар газеты «Наша слова» Э.Ялугін і іншыя.**

**Н.К.**

# ГАСПАДЫНЯ БЕЛАЙ ВЕЖЫ



Шмат стагоддзяў упрыгожвае старажытны Камянец вартаўнічая вежа.

**«За Берасцем князь Уладзімір зрубіў горад Камянец, а ў Камянцы — высокі каменны слуп вышынёй 17 сажняў наўздзіў усім відушчым», — так напісана ў Іпацьеўскім летапісе пра Белую вежу. Вежа абараняла рускія землі ад набегаў ворагаў. Таўшчыня яе сцен — два з паловай метры, вышыня — 30 метраў, будавалі яе восем гадоў. У XIII—XIV стагоддзях вежа была непрыступнай. Тройчы стаялі крыжаносцы ля яе сцен, але ўзяць так і не здолелі.**

**Цяпер Белая вежа ўяўляе сабой архітэктурную і гістарычную каштоўнасць. Унутры яе размясцілася невялікая экспазіцыя, якая апавядае пра гэты унікальны помнік даўніны.**

**Ну, а гаспадыняй вежы вось ужо дваццаць гадоў з'яўляецца Галіна Канстанцінаўна Тарасевіч. Ураджэнка вёскі Камянюкі, што за дзесяць кіламетраў ад вежы, яна закончыла Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут. Дыпломную работу прысвяціла гісторыі раёна і, вядома ж, нямала месца надала ў ёй і Белай вежы. Цяпер Галіна Канстанцінаўна і дырэктар гэтага гістарычнага аб'екта, і экскурсавод — у поўным сэнсе гэтага слова — гаспадыня.**

**На здымках: Гаспадыня вежы Галіна Канстанцінаўна Тарасевіч; адна з карцін экспазіцыі, якая апавядае аб тым, як князь Уладзімір выбіраў месца для ўзвядзення вежы.**

**Эдуард КАБЯК, БЕЛІНФАРМ**
*Фота аўтара*



Пошта

# ЦІКАВАЯ ЗНАХОДКА

Нядаўна, шукаючы месца пахавання паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, мы крыху збіліся з дарогі і неспадзявана знайшлі цікавую знаходку. Знаходкай гэтай стаў камень з высечаным на ім малюнкам вось такога ўзору:



Што гэты малюнак азначае, даведацца пакуль не ўдалося, і таму я звяртаюся да вучоных, гісторыкаў. Можа, каго-небудзь зацікавіць гэтая насечка і сам камень? Мы можам яго паказаць.

І яшчэ. Наша Вілейшчына, як і ўся Беларусь, багатая гістарычнымі мясцінамі. Адных толькі пахаванняў паўстанцаў Каліноўскага нам вядома ў раёне — тры. Самае вялікае з іх — 130 чалавек — каля вёскі Уладыкі. У вёсцы Куранец — 18, а каля вёскі Уткі колькасць пахаваных высветліць не ўдалося. Там цяпер зараўняная бульдозерам жвіровая капальня. Косці іхнія рассыпаны па дарозе Любань — Каралеўцы. Апытанні мясцовых жыхароў нічога не далі. Некаторыя бачылі, як выкопвалі косці экскаватарам, іншыя, самі капаючы жвір, выкопвалі іх, а чые яны, хто там быў пахаваны, адказаць ніхто не змог. З усіх, што ляжаць у гэтых пахаваннях, нам вядома толькі адно прозвішча — Вінцэнт Козел-Паклеўскі, кіраўнік атрада. На жаль, устанавіць прозвішчы загінуўшых мы самі не можам. Таму звяртаемся да зацікаўленых асоб і шчырых фундатараў — дапамажыце, бо сваіх сродкаў у нас няма.

**Пётра БАСЛЫК,**
**старшыня рады скаўцкай харугвы імя Крыштапа Паца**

*м.Вілейка*

# ПЛЁН АБАВЯЗКОВА БУДЗЕ

Я не мастацтвазнаўца, не літаратурны крытык і ўсё ж пішу вам, паважаная рэдакцыя, пішу з адной мэтай — падзяліцца радасцю, гонарам за свой беларускі край і яго таленавіты народ, з надзеяй на адраджэнне і верай у гэта.

Дзве з'явы апошніх дзён упэўніваюць мяне ў гэтым. Зусім нядаўна я наведала першую нацыянальную выставу інсітнага мастацтва, што адкрылася 27 мая ў нацыянальным мастацкім музеі нашай краіны. Як зачараваная, я не магла адысці ад скульптурных твораў Івана Супрунчыка: «Вялікдзень» (кампазіцыя з 10 фігур), «Вяселле» (8 фігур) — гэта нешта непаўторнае. Такая выразнасць твараў, усмешак, поз кожнай фігуры! Вясёлыя «Давыдгарадоцкія конікі» і «Жанчына, якая галосіць», неўміручая «Ефрасіння Полацкая» і «Мужык, які грае на скрыпцы» — углядзіцеся ў іх вочы і адчуеце глыбіню і індывідуальнасць аўтара, які ўсю гэту тайну людскіх душ перадае звычайнай сякерай... Яшчэ адно адкрыццё зрабіла я для сябе на гэтай выставе — шмат талентаў з Віцебшчыны: В. Жарнасек, А. Быстрыцкі, П. Баранаў, М. Байцоў, М. Юхно, В. Цяцеркін, Г. Рабіза, Ф. Максімаў, П. Пляшкоў, П. Зяляўскі, С. Лабкоўскі, М. Сайфугаліева.

Безумоўна, не пакінулі мяне абыякавай і творы невіцебскіх мастакоў, такіх, як В. Альшэўскі, М. Валуевіч, М. Засінец, В. Кавалеўскі, іншых. Усе яны прасякнуты любоўю да людзей, да Беларусі.

А звярнулася я менавіта да віцебскіх мастакоў таму, што хачу распавесці пра паэтычны альманах «Рунь», які выдаецца ў Паставах. Мне і раней даводзілася чытаць вершы пастаўскіх паэтаў. Пасля выхаду першага зборніка (1991), які выпадкова трапіў мне ў рукі, узрушаная, з нецярпеннем чакала наступных выданняў, таму што амаль кожны верш гэтай кніжачкі прасякнуты любоўю да Бацькаўшчыны, болем за лёс зямлі роднай, за мову, іх неабыякавасцю да ўсяго, што адбываецца на свеце. «Рунь-92» і зусім нядаўна мне пашчасціла атрымаць «Рунь-93» — зноў усхвалявалі мяне, я шчыра парадавалася за іх аўтараў, такіх розных і па ўзросце, і па родзе заняткаў. Алесь Касцень і Іосіф Малец, Ганна Жук і Аркадзь Нафрановіч, Ігар Пракаповіч і Леанід Трубач, Яўстафій Абрамовіч і іншыя... А сярод ужо знаёмых імёнаў новае — Люда Сіманёнак.

Усё часцей гаворыцца, што адраджэнне культуры пачынаецца і прыходзіць з правінцыі. Я з падзякай і надзеяй далучаюся да думкі Максіма Танка, што «ад такой маладой руні на беларускай літаратурнай ніве можна чакаць добрых плёнаў».

**Г. ГАЛІЦКАЯ**

*г. Мінск.*

# ВЕЧАР ПАЭЗІІ Ў КАЛГАСЕ

Не толькі аб хлебе надзённым дбае заўзяты прыхільнік культуры, старшыня калгаса «Прагрэс» Жыткавіцкага раёна В.Калеснік. Па запрашэнні Валянціна Іванавіча завіталі сюды на чарговую — трэцюю па ліку — сёлетнюю сустрэчу з чытачамі члены літаб'яднання пры райгазеце «За новыя рубяжы».

Уступным словам адкрыў і вёў вечарыну галоўны рэдактар «раёнкі» І.Самахвалаў.

Затым на сцэну быў запрошаны старшыня райсавета народных дэпутатаў У.Хіля. Цяжка сёння ўсім, сказаў ён, — вытворцам і вяскоўцам, няма лішку і ў дзяржбюджэце. Ды нельга і ў такі няпэўны час дапусціць заняпаду культуры. Тады, лічыце, грамадства страціць усё, у тым ліку і будучыню.

Такога здарыцца не павінна, — перакананы кіраўнік гэтага органа ўлады. Таму апошні і стаў фундатарам літаратурнага альманаха «Галасы Палесся», зборніка нарысаў «Салаўіны бераг», выдадзеных летась у Мазыры, а таксама нарыса М.Жыгоцкага «Легендарны дзед», прысвечанага народнаму герою, ураджэнцу Петрыкаўшчыны дзеду Талашу.

Са сваімі творамі выступілі электрык У.Літвін, майстар па рамонце гадзіннікаў Г.Брэзіцкі, настаўнікі У.Пугач і М.Селех, медык М.Шэнец, журналіст А.Лісіцкі.

Пра сустрэчы з героямі сваіх нарысаў расказала журналістка В.Кебец. Дырэктар цэнтральнай раённай бібліятэкі Л.Чарнагаева пазнаёміла з новымі кнігамі, што атрыманы напярэдадні.

Удзел у вечарыне па добрай традыцыі прынялі выкладчык музычнай школы Г.Кебец і настаўніца біялогіі СШ N 2 райцэнтра І.Моліна, якія выканалі некалькі рамансаў.

Пераможцы літаратурнай віктарыны атрымалі ў падарунак зборнікі «Галасы Палесся», «Салаўіны бераг» і аўтографы гасцей.

**А.ПАЛЕСКІ**






*Мал. Л. РАЗЛАДАВА*

Рэпліка

# УЗНОСЫ — З АХВЯРАВАННЯЎ!

Сярод удзельнікаў «круглага стала» «ЛіМа», на якім ішла гаворка аб праблемах барацьбы з п'янствам і алкагалізмам, прысутнічаў і старшыня праўлення таварыства «Ананімныя алкаголікі» (абазначым яго ініцыяламі К.С.).

Рух «Ананімныя алкаголікі» (А.А.) мае досыць цікавую гісторыю. З'явіўшыся ў Злучаных Штатах Амерыкі ў 1935 годзе, ён распаўсюдзіўся па ўсім свеце, сёння па яго праграмах працуюць у 158 краінах. «А.А.» лучыць мужчын і жанчын, якія вырашылі аб'яднаць свае сілы, каб дапамагчы сабе і іншым пазбавіцца ад алкагалізму.

Але таварыства мае пільную патрэбу ў дапамозе і ўвазе дзяржавы. Пра гэта гаварыў на пасяджэнні «круглага стала» і К.С., прывёўшы факты бюракратычнага стаўлення да праблемы «А.А.» з боку дзяржаўных структур. У прыватнасці, ні Саўмін, ні Мінгарвыканкам, куды неаднойчы звяртаўся каардынатар таварыства, на працягу некалькіх гадоў не жадаюць вырашаць пытання аб прадастаўленні яму памяшкання.

Днямі кіраўнік таварыства зайшоў у рэдакцыю і пазнаёміў нас яшчэ з адным дакументам — сведчаннем дыскрымінацыйных адносін да «А.А.». Гэта ліст намесніка старшыні праўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Л.Бачылы, у якім ён адмаўляе таварыству ў прадастаўленні яму льготнага тарыфу ўзносаў на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне. І гэта таварыству, вельмі спецыфічнаму па сваім складзе, мэтах, таварыству, якое існуе толькі на добраахвотныя ахвяраванні.

***Пра сённяшнія ўлады на Беларусі гавораць і пішуць шмат і акцэнты ўсё больш зміяшчаюцца ў бок негатыўнай ацэнкі іх дзейнасці. Людзі зняверыліся ў здольнасці «слуг народа» зрабіць штосьці рэальнае для іх дабрабыту. Да таго ж вельмі ўжо відавочнымі сталі шматлікія факты злоўжыванняў і карупцыі чыноўнікаў, асабліва з вышэйшага эшалону. Вельмі ж абуральнымі і непрадказальнымі ўяўляюцца іх палітычныя гульні, якія ў рэшце рэшт могуць скончыцца поўнай здачай незалежнасці Беларусі.***

мулу збліжэння пазіцый розных груповак і сіл дзеля бесканфліктнага пераходу ў посткамунізм. Хаця, на мой погляд, калі народ хоча вызваліцца ад тыраніі альбо аднавіць страчаную незалежнасць, яму дастаткова кансалідавацца, прад'явіць належны рахунак уладам і агульным парывам, без пасрэднікаў і напалоханых канфарміcтаў, ажыццявіць задуманае. Але аўтара, пераканага дэмакрата, прыхільніка ідэй Андрэя Сахарава, зразумець можна — ён піша пра Беларусь, пра нашу некансалідаваную нацыю, пра наша грамадства, якое ў большасці сваёй сузірае і маўчыць.

Добра разумеючы ўсю складанасць і драматызм падобнай сітуацыі, І. Катляр справядліва зазначае, што для Беларусі ёсць толькі адно выйсце з саборна-камуністычнага тупіка, адзіны спосаб годнага ўваходжання ў еўрапейскую і сусветную цывілізацыю. Гэта пабудова цывільнага грамадства, якое гарантуе людзям мір, спакой, працвітанне і ў якім адносіны. Іх гарманізацыя, паглыбленне і пастаяннае ўдасканаленне маюць прынцыповае значэнне і для Беларусі. І аўтар справядліва папярэджвае аб недапушчэнні любых, нават самых малейшых спроб парушыць усталяваны баланс інтарэсаў, правоў і патрэбнасцей розных нацыянальных супольнасцей. Недаравальна, на яго думку, абвінавачваць цэлыя народы або нацыі за тыя непрыстойныя ўчынкі, тыя злачынствы і здзекі, якія твcovаліся на беларускай зямлі па волі ўладароў былых імперый.

Напэўна, менавіта ад тых уладароў і іх паслугачоў дасталася нам і балючая праблема антысемітызму. У аналізуемай кнізе ёсць спецыяльна раздзел «Антысемітызм вакол нас», дзе аўтар аргументавана раскрывае сутнасць праводзімай КПСС-КПБ палітыкі дзяржаўнага антысемітызму. Таму нельга без хвалявання чытаць, напрыклад, аб тым, як у 70-я гады саноўныя ным інтарэсам. Дзейнасць першых асоб абласцей, раёнаў і гарадоў фактычна не кантралявалася законам і яны, груба парушаючы гэты закон, доўгі час заставаліся непрыступнымі і непатаплялынымі.

Характэрнай была для гэтага слою і барацьба за ўладу (часцей за ўсё ў форме палітычных інтрыг і даносаў), і неадольнае жаданне яе ўтрымаць (праз падбор вернападданых чыноўнікаў і падхалімаў). Тых прынцыповых партыйцаў, якія праяўлялі непаслушэнства, крытычны погляд на рэчы, праследавалі, пераводзілі на іншую працу або проста выганялі. «Мяне, — піша І. Катляр, — вызвалялі ад займаемай пасады за тое, што нярэдка выказваў думкі, непажаданыя сакратарам, неаднаразова спрабаваў абараніць кадры ад неабгрунтаваных ганенняў, за тое, што ў мяне былі ў многім іншыя метады вырашэння партыйных задач, чым, скажам, у непасрэднага начальніка...».

Вядома таксама, што далейшае сутыкненне аўтара кнігі з партыйна-савецкай рэчаіснасцю канчаткова пераканала яго ў нарастаючай адчужанасці кіруючых колаў ад асноўнай масы камуністаў, ад самых партработнікаў. Асабліва відавочным гэта стала тады, калі ліберальна настроеныя камуністы падтрымалі «Дэмакратычную платформу ў КПСС», выступіўшы за дэмакратызацыю ўнутрыпартыйнага жыцця і грамадства. І. Катляр разам з іншымі актывістамі стварыў гарадскі паліткклуб прыхільнікаў дадзенай платформы, а ў 1990 годзе яны выступілі з ініцыятывай аб'яднання ўсіх дэмакратычных сіл і арганізацый Брэстчыны. З мэтай процістаяння «блоку неасталіністаў з карумпаванай бюракратыяй і ўсё больш нахабным злачынным светам». А за тыдзень да жнівеньскага путчу І. Катляр у якасці кіраўніка клуба «Дэмакратычны рух» выступіў у «Народнай газеце», з артыкулам, у якім пераканаўча паказаў, што дэмакратыя аказалася варожай для апаратных структур, а Кампартыя Беларусі ператварылася ў бастыён кансерватыўных сіл і гатова нават прымяніць сілу для задушэння эканамічных і палітычных свабод; расказаў аб гнеўнні партыі знутры, аб масавым выхадзе з яе шэрагаў. Невядома, як мог бы ў выпадку перамогі путчыстаў злажыцца лёс самога І. Катляра, бо тады з ЦК КПБ у Брэст паступіла ўказанне звольніць яго з пасады дацэнта.

# НЕАБАЛЬШАВІЦКАЯ ЎЛАДА — ТОРМАЗ АДРАДЖЭННЯ

## З НАГОДЫ ВЫХАДУ Ў СВЕТ КНІГІ ІВАНА КАТЛЯРА «ПОГЛЯД ЗНУТРЫ»

Накіраваная па сутнасці на задавальненне сваіх карыслівых інтарэсаў, узрослая актыўнасць наменклатуры выклікае не толькі пачуццё трывогі за лёс Бацькаўшчыны, але і натуральнае жаданне зразумець псіхалогію гэтага ўсемагутнага слоя, унутраныя механізмы рэалізацыі яго палітычных мэт і ўстановак.

На старонках перыядычных выданняў рэгулярна выступаюць палітыкі і журналісты з крытычнымі матэрыяламі аб бягучай дзейнасці парламента і ўрада, мясцовых органаў кіравання. Сапраўднай сенсацыяй сталі кнігі Івана Герасюка «Агонія наменклатуры» і «Рулетка ўлады», якія ўдала сумяшчаюць глыбокі публіцыстычны роздум журналіста, што сам нямала пакутаваў ад падкопаў наменклатуры, з дакументальным аналізам амаральнай і антызаконнай практыкі канкрэтных уладатрымальнікаў. Нарэшце, апублікавана дакументальная аповесць Міхася Парахневіча «Запіскі былога партапаратчыка», у якой праўдзіва адлюстравана пануючая ў «белых дамах» атмасфера крывадушнасці, нецярпімасці да жывога слова і свабодалюбства.

І вось, як прадбачліва заўважыў адзін з аўтараў «ЛіМа», гэтая тэма атрымала нечаканы і незвычайны працяг. Нечаканы таму, што яго выканаўцам стаў навуковец-паліталаг, дацэнт Брэсцкага педінстытута Іван Катляр, які прайшоў шлях па ніжэйшых і сярэдніх прыступках партыйна-камсамольскай і савецкай іерархіі і за сваё неартадаксальнае мысленне, нязгоду з начальствам быў выкінуты з гэтага ланцуга рабалепных назіральнікаў і служак. Незвычайным працяг тэмы стаў таму, што ў ім арганічна зліліся асабісты вопыт аўтара і глыбокія тэарэтычныя абагульненні, абгрунтаваныя вывады і рэкамендацыі. І ўпаўне заканамерна, што кніга была рэкамендавана да выдання кафедрай паліталогіі і сацыялогіі Нацыянальнага інстытута гуманітарных навук, а ў цэнтры ўвагі даследчыка аказалася праблема ўлады, яе прыроды, генезісу і магчымых шляхоў пераўтварэння.

Дык якая ж яна, сучасная ўлада? Чаму вось ужо чатыры гады пасля абвяшчэння Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце яна не прыняла ідэалогіі адраджэння і так настойліва імкнецца зацягнуць нас назад у СССР і зрабіць з беларусаў, па трапнаму выразу Адама Станкевіча, «казённых парабкаў-пралетарыяў без сваёй гаспадаркі, без сваёй бацькаўшчыны, без уласнай волі»? (Заявіў жа В. Кебіч у час свайго «рабочага візіту» ў Маскву, што ён лічыць сваім абавязкам давесці да канца справу аб'яднання з Расіяй і славянскімі (?) дзяржавамі і што Беларусі проста наканавана жыць адной сям'ёй з Расіяй і Украінай).

Пошук адказаў на гэтыя і іншыя набалелыя пытанні складае аснову зместу філасофска-дакументальнай кнігі І. Катляра. Тым больш важна, што аўтар пазбягае ўсялякіх крайнасцей у ацэнках, імкнецца знайсці выратавальную «цэнтрысцкую» формy

няма манаполіі адной ідэалогіі, дыктатуры адной партыі або групоўкі, адсутнічае дыскрымінацыя па нацыянальна-этнічных, палітычных і іншых прыкметах. Аснову такога грамадства (а яно ўжо ўсталявана ў многіх краінах Захаду) складаюць замацаваныя ў законе правы чалавека, ліберальная, сацыяльна арыентаваная эканоміка, шматпартыйнасць, узаемная зацікаўленасць дзяржавы і грамадзян у абароне свайго суверэнітэту, свабоды і незалежнасці.

І. Катляр выказвае адназначную падтрымку працэсу станаўлення незалежнай беларускай дзяржавы, падзяляе прынцыповыя палажэнні асноўных заканадаўчых актаў, на якіх грунтуецца яе суверэнітэт і аўтарытэт. Але яго хвалююць спосабы дасягнення пастаўленай мэты, абгрунтаванасць тых або іншых крокаў. Таму так старанна аналізуе ён адмоўную дынаміку эканамічнага і сацыяльнага развіцця краіны пасля абвяшчэння суверэнітэту, прычыны небывалай успышкі амаральных праяўленняў, масавага крадзяжу і карупцыі. І як бы сам па сабе напрошваецца вывад: усё гэта — вынік свядомай дзейнасці былой камуністычнай наменклатуры, якая пасля жнівеньскага путчу 1991 года і развалу СССР узмацніла разбуральныя працэсы і паставіла задачу давесці народ да такога стану, каб ён сам папрасіў бальшавікоў вярнуцца да ўлады.

Для выхаду з крызісу, як вядома, патрэбна перш за ўсё інтэнсіфікацыя рынкавых адносін. Але на Беларусі, як справядліва заўважае І. Катляр, ідэя рынку да невераrоднасці скажоная. Таму што яна ажыццяўляецца пад кіраўніцтвам той самай сілы, якая зусім нядаўна выступала супраць прыватнай уласнасці наогул, а сёння ўкараняе спекулятыўна-рэкецірскі тып руху да рынку і, прыкрываючыся новым заканадаўствам, актыўна прыватызуе і дзяржуласнасць, і ўсё, што паддаецца звычайнаму пераразмеркаванню. Вялікую ролю ў вырашэнні эканамічных задач магло б адыграць і станаўленне сістэмы мясцовага самакіравання, у распараджэнні якой у шэрагу краін знаходзіцца да 30—40 працэнтаў аб'ектаў народнай гаспадаркі.

Дзейсным сродкам у пераадоленні згубнага ўплыву бюракратызму ўяўляецца і галоснасць, але яна, на думку аўтара, прыкметна звужана і, болей таго, «на шыі свабоднай прэсы ўсё больш зацягваецца пятля», а падпарадкаваныя Саўміну сродкі масавай інфармацыі ператвораны ў органы афіцыйнай прапаганды. Сапраўды, хіба не пацвярджаюць гэты вывад шматлікія судовыя іскі чыноўнікаў да прагрэсіўных выданняў і журналістаў, адмовы ў акрэдытацыі пры беларускім парламенце карэспандэнтаў расійскіх дэмакратычных газет? А чаго вартае, скажам, ганебнае судзілішча над пісьменніцай Святланай Алексіевіч, якая адкрыла вочы тысячам падманутых маці на злачынную сутнасць той сістэмы, па віне якой загінулі 15 тысяч іх сыноў і каля двух мільёнаў ні ў чым невінаватых грамадзян далёкага Афганістана!

Не абыходзіць І. Катляр і такую далікатную праблему, як міжнацыянальныя

акадэмікі здзекаваліся з загадчыка кафедры філасофіі АН Беларусі В. І. Горбача, які асмеліўся не выканаць загад віцэ-прэзідэнта аб правале на конкурсных экзаменах аспірантаў-яўрэяў. Або пра тое, як забаранялі кнігі аб трагедыі яўрэйскага народа ў гады другой сусветнай вайны, як наладзілі сцяну маўчання вакол яўрэйскіх гета на тэрыторыі Беларусі, як віцебскія і рэспубліканскія ўлады бесцырымонна адмовіліся удзельнічаць у мерапрыемствах ЮНЕСКА ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння М. Шагала. Як, нарэшце, вызвалілі ад яўрэяў усе выбарныя органы кампартыі і саветаў, увесь партапарат (засталося хіба што некалькі лектараў ці кансультантаў). А цяпер гэтыя людзі, каб адцягнуць увагу ад сапраўдных вінаўнікаў крызісу, абвінавачваюць ва ўсіх няшчасцях народа нейкіх няўлоўных «жыдамасонаў» і агентаў уплыву. Тым больш небяспечны антысемітызм, што сёння ён фактычна стаў ядром вялікадзяржаўнага шавінізму і інспіраванай прапагандысцкай кампаніі, накіраванай на ліквідацыю незалежнасці Беларусі і адраджэнне былых разбуранай «сіяністамі» бальшавіцкай імперыі.

З цікавасцю чытаецца зроблены І. Катляром аналіз маральнага стану беларускага грамадства, на які таксама паўплывала ў адмоўны бок працяглае пананне тыраніі.

Цяперашнія ўладныя структуры працуюць на мяжы фола, на мяжы цярпення народных мас. І прычыну гэтага аўтар кнігі бачыць у самой сутнасці гэтай улады, дае характарыстыку яе тыповых, адметных рыс. Па-першае, указвае ён, улада на Беларусі перш за ўсё мае наменклатурнае, пракамуністычнае адценне, нягледзячы на тое, што асобныя яе прадстаўнікі спрабуюць прымяраць нацыянальную вопратку. Па-другое, існуючая ўлада — карумпаваная: яна сама арганізуе псеўдакамерцыйныя структуры, сама імі кіруе, сама іх кантралюе, сама прысвойвае іх капіталы. І, як мне ўяўляецца, вельмі дарэчы тут папярэджанне І. Катляра: калі беларуская мафія будзе кантраляваць большую частку дзяржаўнай і прыватнапрадпрымальніцкай дзейнасці, то гэта стане пачаткам нацыянальнай катастрофы. Па-трэцяе, гэтая ўлада з'яўляецца, па сутнасці, уладай бюракратыі, вынашанай партыяй Леніна — Сталіна і дасягнуўшай піка свайго трыумфу ў залаты для яе час панавання Брэжнева.

Спасылаючыся на свой асабісты вопыт работы ў апараце, І. Катляр у спецыяльным раздзеле «Наменклатура» паказвае арганічную ўзаемасувязь і пераемнасць у характары і стылі дзейнасці гэтага спецыфічнага сацыяльнага слою. Ён сваімі вачыма ўбачыў тое, што так моцна хавалася ад людскога вока або абкладвалася лжывымі ідэалагічнымі міфамі аб «адзінстве партыі і народа», аб тым, што «дабрабыт народа — вышэйшая мэта КПСС». Кожны наменклатуршчык, падкрэсліваецца ў кнізе, меў сваю, строга азначаную дзялянку ўлады, і тут выяўлялася падабенства рэжыму наменклатуры з феадальным ладам. Беларуская наменклатура сваю ўладу разглядала не толькі як «асалоду з асалод» (па выразу М. Джыласа), але і змагла ўмела падпарадкаваць яе сваім уласным інтарэсам.

Вось чаму, чытаючы кнігу, глыбока верыш і жыццёвым прыкладам, і тэарэтычным абагульненням яе аўтара. Ягонае разважанне аб неабходнасці спалучэння палітыкі і высокай маралі, аб прынцыпах і маральна-палітычных крытэрыях дзейнасці дэмакратычнага руху, які, безумоўна, павінен быць апазіцыйным да сённяшніх пракамуністычных улад, арыентавацца на задавальненне сацыяльных і духоўных патрэбнасцей людзей, арганізацыйна будавацца з улікам узаемападтрымкі і таварыскасці сваіх удзельнікаў.

Чытачы, напэўна, звернуць увагу і на такі арганічна ўплецены ў агульную канву аповяда раздзел, як «Жыць па праўдзе». У ім гаворыцца аб тым, што адраджэнне нашага жыцця немагчыма без актыўнай пазіцыі кожнага чалавека, вызвалення яго ад тых стэрэатыпаў, якія дапамагалі стварaць (і стварылі) велізарную сістэму хлусні і насілля. Такая сістэма баіцца тых, хто заўсёды жыў і сёння жыве па праўдзе. Яркім прыкладам у гэтым плане з'яўляецца Васіль Пятровіч Ласковіч, ганаровы грамадзянін Брэста, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі (за што шмат гадоў правёў у турмах і лагерах) і партызанскага руху ў гады вайны, аўтар шэрагу кніг і публікацый. Наменклатура ўсё рабіла для таго, каб прынізіць, «паставіць на месца» гэтага чалавека за тое, што ён гаварыў праўду аб стылі работы і злоўжываннях пануючай вярхушкі КПСС-КПБ. Не магу не адзначыць і тое, што зусім неспадзявана І. Катляр называе ў гэтым раздзеле і маё прозвішча, дае, можа, нават занадта рамантызаваныя і ўзнёслыя ацэнкі маёй палітычнай пазіцыі і прафесійнай дзейнасці. Але факт застаецца фактам — з ім нас з'яднала адзінства поглядаў, адзінства ў разуменні прычын і механізмаў тармажэння працэсу нармальнага, цывілізаванага развіцця беларускага грамадства.

Іншымі словамі, кніга «Погляд знутры» — гэта глыбокі роздум нераўнадушнага грамадзяніна аб вытоках шматгадовых пакут нашага грамадства і супярэчнасцях яго сённяшняга стану. Аб таямніцах псіхалогіі і паводзін тых гаспадароў, што зноў навязваюць беларускаму народу ненатуральныя формы жыцця, заганяючы яго ў труну зм'яцвелых догм і формулаў. Аб рэальна магчымых і цывілізаваных шляхах дэмакратычнага развіцця, адраджэння таго, што было страчана дзякуючы высілкам усемагутнай Наменклатуры.

**Станіслаў ДУБЯНЕЦКІ**

*Котляр И. И. Взгляд изнутри: Общественно-политический процесс на Беларуси. Лунинец, «Спектр», 1993.*

## ПРЫСВЯЦІЎ ТАЛЕНТ ЖАНЧЫНЕ



**Аляксей Кузьміч — адзіны беларускі мастак, удастоены гонару паказаць свае работы патрабавальнай публіцы Санк-Пецярбурга. Трыццаць ягоных карцін складуць экспазіцыю, якая адкрылася 22 ліпеня ў выставачнай зале пецярбургскага Саюза мастакоў.**

**Што вязе ў Піцер жывапісец, якога ў нас многія называюць «беларускім Рафаэлем»? «Я павязу туды сваю філасофію», — гаворыць Кузьміч. Ён прысвяціў свой талент апяванню мадонны, жанчыны. У ягонай майстэрні больш за пяцьсот работ, многія з якіх мінчане змаглі пабачыць увосень мінулага года на працяглай выстаўцы ў сталічным Палацы мастацтваў. Жанчына, упэўнены Аляксей Кузьміч, з'яўляецца носьбітам духоўнасці. Яна — галоўны стваральнік. Яна — цэнтр Сусвету. Яна — свечка, што асвячае і асвятляе шлях, і мастак захапіўся ідэяй «несці» гэтую свечку, паказаць яе святло і цяпло цяперашнім і будучым пакаленням...**

*На здымку: мастак Аляксей Кузьміч у сваёй майстэрні.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ*

## ПРАЧЫТАЙЦЕ

**шосты нумар часопіса «Мастацтва». Роля культуры, творчай інтэлігенцыі Беларусі пачатку нашага стагоддзя ў нацыянальным Адраджэнні — тэма артыкула У. Філякова «Незабыўнае і незаменнае». У раздзеле «Эстэтыка» выступаюць таксама Я. Ленсу («Дызайнер малюе трактар»), С. Бенядзіктаў («Вандроўныя сюжэты з жыцця людзей і «прывідаў»).**

**Багаты раздзел «Музыка». А. Карацееў («Музыка Перамогі») узнаўляе малавядомыя старонкі гісторыі духавой музыкі. Н. Бунцэвіч («Каб не ахвяраваць ісцінай...») прапануе справаздачу з «круглага стала», што адбыўся пасля нядаўняга з'езда кампазітараў Беларусі. Д. Падбярэзскі знаёміць з чарговымі раздзеламі з нявыдадзенай кнігі па гісторыі музычнага шоу-бізнесу — «Што ў імені тваім, альбо Нештачка з жыцця зорак пап-музыкі». Гэты ж аўтар запрашае на джаз-фестываль — «Адштурхнёмся ад класікі». В. Гудзей-Каштальян («Зразумець сутнасць убачанага») разважае ў сувязі з 20-годдзем творчай дзейнасці В. Елізар'ева.**

**Зацікавіць раздзел «Выяўленчае мастацтва». В. Капёнкіна («Уцёкі ўнутр сябе») піша пра сучасных беларускіх мастакоў-авангардыстаў. Я. Кузьміцкі — новае імя ў беларускім мастацтве. Пра яго расказвае ў артыкуле «Одзіну і Ярылу» В. Буйвал. В. Трыгубовіч («Сейбіты ў непагадзь») гаворыць пра цікавага мастака П. Мірановіча. Друкуецца і артыкул пра яго В. Сельвясюка «Настальгія і надзея», напісаны ў 1989 годзе ў ЗША. А Л. Міронава прадстаўляе мастачку Г. Тураўскую — «Як у жыцці».**

**Як заўсёды, радуе раздзел «Тэатр». Гэтым разам рэжысёрскімі нататкамі Г. Давыдзькі «Паміж мінулым і будучыняй», развагамі Р. Таліпава «Талент належыць творцы», арыкуламі Л. Манаковай «Назавём дабро — дабром; назавём зло — злом», В. Катавіцкага «Асоба вызначае нацыю...»**

**У нумары ёсць і пастаянныя раздзелы «Мастацкае фота», «Экран», «Народнае мастацтва», «Гісторыя мастацтва», «Падзеі, факты, інфармацыя».**

## З МАСТАЦТВАМ КІТАЯ

**можна было пазнаёміцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі. Тут працуе выстаўка чатырох творцаў з далёкай краіны, з якой Рэспубліка Беларусь апошнім часам падтрымлівае самыя цесныя стасункі. Калі Шэн Чэн, Ван-Лан-с'енг, Лі Чы-мао схільны да традыцыйных сюжэтаў і манеры пісьма, дык Ліао Сю-пінг — аўтар мадэрнісцкіх работ. Раней гэтыя творы згаданых аўтараў дэманстраваліся ў Францыі, Іспаніі, Германіі, многіх краінах Амерыкі і Азіі.**

Тэатр

# АДНОЙЧЫ ВЯРНУЎШЫСЯ Ў МАСТАЦТВА...

Нельга не заўважыць: дзейнасць Рэспубліканскага тэатра юнага гледача настойліва скіроўваецца да абслугоўвання так званых школьных навучальных планаў. Пастаноўкі — як ранейшыя, так і цяперашнія — усё больш ператвараюцца ў наглядныя дапаможнікі на агульным школьным уроку...

Але вось напрыканцы сезона навязанае ТЮГу сумніцельнае становішча ўзрываецца прэм'ерай спектакля «Тая, што стварыла цуд» паводле п'есы Уільяма Гібсана. Пастаноўка — у ліку тых нямногіх твораў, якія вызначаюць тэатральныя набыткі.

Гісторыя хворага дзіцяці, пакладзеная ў аснову п'есы У.Гібсана, раскрываецца тэатрам як вострадраматычная барацьба-змаганне за лёс чалавека. Медыка-навучальная карціна таго, як сляпую і глуханямую дзяўчынку ўдаецца навучыць словам, разгортваецца ў адмысловую метафару чалавечага сапазнання.

Пастаноўка рэжысёра Уладзіміра Салюка вызначаецца дакладнай мастацкай пабудовай. Спачатку скразная тэма будучага «цуду» абазначаецца агульным планам, затым адбываецца яе, так бы мовіць, персаніфікацыя: драматызм сітуацыі па-свойму адбіваецца праз кожны персанаж.

Рэжысёр тактоўна пазбягае меладраматычных эфектаў, якімі можна лёгка спакусіцца, працуючы над п'есай «Тая, што стварыла цуд». Уся рэжысёрская ўвага канцэнтруецца на ўнутраным жыцці персанажаў, і яно, трэба прызнаць, раскрываецца ў спектаклі з надзвычайным эмацыянальным напружаннем. У паводзінах герояў не заўважаецца нічога выпадковага. Спосаб і характар дзеяння абумоўліваюцца мастацкай логікай пастаноўкі, дзякуючы чаму работа ТЮГа і ўспрымаецца як цэласны сцэнічны твор.

Драматургічны матэрыял п'есы пэўна выяўляе два бакі ўзаемадачыненняў паміж дзеючымі асобамі. Адзін бок — пасіўны. Ён уключае сям'ю Келераў, члены якой аказваюцца сведкамі падзей, рэагуюць на тое, што адбываецца ў іх на вачах. Другі бок — актыўны. Яго прадстаўляе сюжэтная звязка Элен — міс Ані. Непасрэдныя сутыкненні хворай дзяўчынкі і яе настаўніцы складаюць дзейсны пачатак твора. У трактоўцы У.Салюка гэтыя два бакі арганічна спалучаюцца.

Сапраўднымі сатворцамі рэжысёра выступаюць акцёры — выканаўцы роляў у спектаклі. Ігра кожнага прываблівае глыбінёй і шчырасцю, якім бы паводле памераў і функцыі ні быў матэрыял ролі. Так, пасіўнасць дзеяння кампенсуецца дакладнасцю рэакцыі, а развіццё характару даецца з псіхалагічнай паслядоўнасцю.

Прыхаваны боль бацькі Элен адчайна гучыць у ігры Леаніда Улашчанкі (капітан Келер). Мо таму адчайна, што прарываецца ў хвіліны, калі яго герой рашуча дэманструе ўпэўненасць у сваёй рацыі. Наадварот, гора маці праяўляецца адкрыта і штохвілінна. Вобраз Кэт (яго ў розных складах ствараюць Ларыса Горцава і Галіна Кухальская) складаецца як быццам з двух полюсаў. На адным значыцца рэальнае бяссілле, немагчымасць выратаваць дзіця, на другім — непадуладная свядомасці надзея, непахісная матчына вера.

Трапнымі ігравымі дэталямі перадаюць характэрныя рысы сваіх персанажаў Жанна Друцкая і Кацярына Доўнар (Цётачка Іў), Таццяна Жданава (Вінэй) і Алена Шабад (Персі). Сваёй кароткай прысутнасцю на сцэне яны дадаюць кідкіх фарбаў у агульнае дзеянне. Рэдка й трапна падкрэсліваюць вобразную адметнасць пастаноўкі.

У ролі Джэймса, брата Элен, дэбютуюць Андрэй Кізіно і Яўген Піменаў. Ігра маладых выканаўцаў пакідае добрае ўражанне. Занадта рызыкоўна было б сцвярджаць, што ў рабоце акцёраў ужо праявілася творчая індывідуальнасць. Вобраз Джэймса можа служыць прыступкай да гэтага, — на яе і А.Кізіно, і Я.Піменаў узняліся пэўна.

Бясспрэчна, цэнтральнае месца ў спектаклі займаюць вобразы Элен і міс Ані. Уласна кажучы, дзеля іх і напісана п'еса. Рэжысёр і выканаўцы па-майстэрску скарыстоўваюць гэтую асаблівасць аўтарскага пісьма. Акцёрскі дуэт Веры Кавалеравай і Раісы Астрадзінавай выклікае невымоўнае эмацыйнае ўзрушэнне.

Выступленне В.Кавалеравай у ролі Элен зноў (і ўжо каторы раз!) пераконвае ў неабмежаваных магчымасцях яе драматычнага таленту. Мяркую, для актрысы не існуе перашкод у авалоданні формай вобраза. Найскладанейшая псіхафізічная ўстаноўка ролі атрымлівае дасканалую распрацоўку. Таксама, здаецца, няма мяжы таму ўнутранаму напаўненню, на якое здольная актрыса ў раскрыцці мастацкага зместу вобраза. Характар Элен—Кавалеравай праяўляецца цэлай гамай пачуццяў. У паводзінах глуханямой дзяўчынкі знаходзіць адлюстраванне кожны рух яе жывой душы.

Роля міс Ані — без усялякіх перабольшанняў — выключная работа Р.Астрадзінавай. Ствараючы паўнакроўны вобраз той, якая здзяйсняе цуд у адпаведнасці з драматургіяй, актрыса раскрывае цуд пераўтварэння сваёй акцёрскай індывідуальнасці насуперак тэатральнаму стэрэатыпу: калісьці Р.Астрадзінава пачала з далікатнай, трапяткой Дзюймовачкі, і гэты персанаж на доўгі час вызначыў яе амплуа. І вось цяпер актрыса прадстае ў вобразе валявой дзяўчыны, моцнай у сваіх перакананнях, гатовай змагацца нават у адзіноце. Адчайная самаадданасць, з якой Ані—Астрадзінава імкнецца абудзіць свядомасць сваёй хворай вучаніцы, яскрава выяўляе праўдзівы кошт шчырай любові да чалавека.

Спектаклем «Тая, што стварыла цуд» У.Гібсана Тэатр юнага гледача вяртаецца да сябе самога... Гледачы, якія паспелі пагледзець пастаноўку, змаглі пераканацца ў магутнай сіле сцэнічных вобразаў, перажыць дарагія хвіліны душэўнага ўздыму, адчуць патрэбу ў суперажыванні. Здавалася б, паспяховае сцэнічнае жыццё спектаклю забяспечана. Аднак умовы, у якіх працуе ТЮГ, ужо спарадзілі «дзіўную» праблему. З'явілася пытанне пракату цікавай работы. Відаць, ад таго, калі і як яно будзе вырашацца, і будзе залежаць, ці можна, вярнуўшыся аднойчы ў мастацтва, у ім і застацца.

**Ала САВІЦКАЯ**

Архівы

# КАБ КАЛАСІЛАСЯ БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Кароткі архіўны дакумент заінтрыгоўваў: «Віцебск, Селезнеў завулак, дом N 9, кампазітару М.В.Анцаву. Даследчы інстытут па вывучэнні мастацтва пры Інстытуце беларускае культуры, прыкладаючы пры гэтым сюіту з пяці беларускіх песень, просіць Вас разгледзець яе і даць усебаковую ацэнку. Старшыня Я.Дыла, сакратар А.Грыневіч. 14 снежня 1927 г.»

Хутчэй за ўсё інстытут свядома не назваў аўтара музычнага твора — каб Міхаіл Анцаў мог аб'ектыўна выказацца наконт яго вартасці. А аўтарам сюіты «З вёсак і ніў беларускіх» быў член камісіі па вывучэнні народнай музыкі Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта) Мікалай Макаравіч Ігнатоўскі, малодшы брат старшыні Інбелкульта, першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага. Нарадзіўся М.Ігнатоўскі ў вёсцы Такары Брэсцкага павета Гродзенскай губерні ў сям'і народнага настаўніка. У 1904 г. скончыў Літоўскую духоўную (праваслаўную) семінарыю і паступіў на медыцынскі факультэт Юр'еўскага універсітэта. У гэты час на гістарычным аддзяленні гісторыка-філалагічнага факультэта вучыўся яго старэйшы брат Усевалад.

У 1905 г. браты Ігнатоўскія пакідаюць універсітэт — Усевалад здае экзамен на званне настаўніка і працуе ў горадзе Ладзейным Аланецкай губерні (толькі ў 1911 г. ён скончыць той жа Юр'еўскі універсітэт), Мікалай пераводзіцца на медыцынскі факультэт Томскага універсітэта. Скончыўшы яго ў 1912 г., працуе ўчастковым урачом у Томскай губерні, затым урачом-экспертам у Віленскім гарадскім шпіталі «Савіч». Увесь вольны час аддае музыцы.

У час ваеннага ліхалецця М.Ігнатоўскі — ваенны ўрач. Дэмабілізаваўшыся, працуе судова-медыцынскім экспертам Ленінградскага павета. Але па-ранейшаму яго вабіць да сябе музыка. Дзеля таго, каб атрымаць музычную адукацыю, ён паступае ў інструктарскія класы Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы ў Ленінградзе (былыя рэгенцкія класы), якія і канчае ў 1926 г. Там вывучалі элементарную тэорыю музыкі, сальфеджыо, гармонію, кантрапункт, фугу, а таксама вучылі іграць на фартэпіяна і скрыпцы. Тыя, хто скончыў курсы, мелі права вучыць пецъ і ствараць кампазіцыі. Затым удасканальвае свае веды па тэорыі кампазіцыі і практычным музычным пісьме ў прафесара Ленінградскай кансерваторыі М.Юдзіна. Да гэтага часу адносяцца і першыя спробы музычнай апрацоўкі беларускіх народных песень. Па прапанове Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы М.Ігнатоўскі піша сюіту для вялікага змешанага хору «З вёсак і ніў беларускіх». Капэла прымае яе да выканання ў музычна-этнаграфічных канцэртах.

У снежні 1927 г. ён перасылае гэты свой першы музычны твор у Даследчы інстытут па вывучэнні мастацтва пры Інбелкульце. Адтуль яго накіроўваюць на водгук кампазітараў М.Анцаву, выхаванцу Пецярбургскай кансерваторыі (клас М.Рымскага-Корсакава), аўтару сольных і харавых апрацовак беларускіх народных песень. Апошні, звярнуўшы ўвагу на недакладныя месцы ў творы, яго складанасць, адзначыў, што ў сюіце «заўважаецца беражлівы падыход да мелодыі і стараннасць апрацоўкі, якая зроблена больш па правілах свабоднага кантрапункта, чымся строгага. Маюцца ў сюіце месцы вельмі цікавыя з тэхнічнага боку».

Заўвагі аб сюіце зрабілі і супрацоўнікі інстытута. Перасылаючы іх М.Ігнатоўскаму, Язэп Дыла, у прыватнасці, адзначыў, што «сюіта, як спроба апрацоўкі беларускіх мелодый, мае значную каштоўнасць у беларускай музычнай літаратуры, і мы вельмі хацелі б, каб яна, пасля Вашага перагляду, трапіла ізноў жа да нас — ёсць некаторыя спадзеі, што мы дастанем крыху грошай на музычныя выданні і зможам яе надрукаваць».

Невядома, ці была надрукавана гэта сюіта. Хутчэй за ўсё — не. Перaслед і цкаванне Усевалада Ігнатоўскага, а затым яго трагічная смерць хутчэй за ўсё прыпынілі так удала пачатую працу Мікалая Усеваладавіча на музычнай «ніве беларускай». Невядома, як наогул склаўся яго далейшы лёс. Апошнія звесткі аб ім адносяцца да мая 1928 г. Захавалася ў архіве копія ліста Даследчага інстытута па вывучэнні мастацтва М.Ігнатоўскаму. У лісце гаворыцца:

«Паважаны сябра! Па даручэнні Усевалада Макаравіча паведамляем, што Вы залічаны ў склад экспедыцыі на Віцебшчыну для збірання народных песень (склад экспедыцыі — таварыш Грыневіч А.А. і Вы, час выезду — 20 чэрвеня). Разам з гэтым Даследчы інстытут просіць Вас распачаць ужо працу, аб якой Вы гутарылі з таварышам Дылам, і на першую пару даведацца ў Русском географическом обществе (Демидов переулок, N 8), колькі ў ім ёсць запісаў беларускіх народных мелодый, а таксама даведацца аб тым самым і ў рукапісным аддзеле Публічнай бібліятэкі і, паведаміўшы Даследчы інстытут аб выніках, наладзіць капіроўку гэтых мелодый. На даведку і капіроўку мелодый з тэкстамі да іх Даследчы інстытут мае магчымасць выдаткаваць каля 100 руб., з якіх 50 руб. пры гэтым пасылаюцца».

Ці выязджаў М.Ігнатоўскі ў экспедыцыю на Віцебшчыну разам з вядомым збіральнікам беларускага музычнага фальклору Антонам Грыневічам, удакладніць не ўдалося. Але, бясспрэчна, ён неаднаразова дапамагаў Інстытуту беларускай культуры.

Вось амаль і ўсё, што нам вядома пра Мікалая Макаравіча Ігнатоўскага. Нешта, напэўна, можна было б адшукаць у архівах. Але яны амаль усе далёка ад Беларусі, за мяжой, у бліжнім замежжы. Сёння туды цяжка даехаць. Можа, знойдзецца там хто і прадоўжыць пошук? А, можа, напісанае тут зацікавіць біёграфаў і даследчыкаў творчасці першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук У.М.Ігнатоўскага? З гэтай нагоды, а яшчэ таму, што сёлета споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Мікалая Макаравіча Ігнатоўскага, і пісаліся гэтыя нататкі.

**Ул.ГРАМОВІЧ**

# «БОГ ПОМСЦІЦЬ НАМ...»

## «КАХАННЕ ПАД ВЯЗАМІ» Ю. О'НІЛА Ў МАГІЛЁЎСКІМ АБЛАСНЫМ ТЭАТРЫ ДРАМЫ І КАМЕДЫІ ІМЯ В. ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА (БАБРУЙСК)



Будынак-выгарадка паўстае на фоне досвіткаў ды змярканняў. Камяні, сям-там раскіданыя па сялянскім двары, паступова ўтвараюць вобраз спектакля, нібы рыхтуюць гаворку пра людзей, скрозь якіх прараслі камяні, ды пра камяніскі, якія ўтварыліся з людзей. Хутка рэпліка аднаго з персанажаў: «Бог помсціць нам» — канчаткова пазначыць вырашэнне мастака У. Навакоўскага: так званая Богава помста прадугледжвае для насельнікаў спектакля выпрабаванні на чалавечую трывушчасць. Каменны дом у сцэнах досвіткаў ды змярканняў будзе рабіцца прывідным, мройным, фантастычным, — ён паўстаў сярод камянёў насуперак шмат чаму, магчыма, й насуперак здароваму розуму свайго гаспадара Эфраіма Кэбата. У падобным сцэнічным асяродку, дзе на ўзрост дома ды гаспадара выдаюць сівыя галіны вязаў (яны старэлі разам з жыхарамі фермы), можа ды мусіць здзейсніцца нешта Богава. Або помста, або блаславенне. Ды людзям-камяніскам наканавана пераблытаць іх: каменная хвароба нягнуткасці, няскратнасці, недаравання здужае людзей...

Дом смуткуе па каханні. Здагадка пра смутак кахання з'явіцца ўжо ў экспазіцыі, калі жаночая фігурка ў белым паволі рухаецца па ўсіх узроўнях дома. Гэта — прывід маці Эбіна і другой жонкі Эфраіма, з якой у доме звязана ўсё самае пяшчотнае. Эбін пайшоў па маці. (Дарэчы, усе наступныя з'яўленні прывіду тэхнічна выкананы дрэнна, і пагражаюць надаць рэжысёрскай задуме камічную афарбоўку).

Першая вялікая сцэна з братамі Эбіна Сімяёнам (Л. Кучко) і Пітэрам (М. Герасіменя) і ўводзіць у дзеянне, і задае ягоны тон. Тое, што ў пастаноўках «Кахання пад вязамі» часцей вырашаецца шараговым эпізодам, вылучана рэжысёрам Л. Падбярозкінай як пункт адліку будучых грахоў і дабрадзействаў на сцэне. Браты, узяўшы ад Эбіна бацькавы грошы, — за тое, што адмовіліся ад долі дома, фермы ды спадчыны, — спраўджваюць сваю мару пра волю і падаюцца на пошукі золата, эфектна зносячы з сабою дзверы хлява. Гэтыя дзверы хутка выкрыюць нейкую рэжысёрскую недадуманасць (хоць агульнае вырашэнне пастаноўкі вымагае павагі і выдае на такую ж паважлівую суаднесенасць з акцёрскімі магчымасцямі): дзверы так і не вернуцца на сваё месца ў хлеў у... руплівага гаспадара Эфраіма. Дэталь красамоўна спрацуе супраць ягоных самахарактарыстык дый чалавечай дыхтоўнасці, падкрэсліць хіба... узроставую нямогласць? А гэта супярэчыць выкананню Б. Баева...

«Бог помсціць нам!» — выгукае ягоны герой. Супрацьстаянне — натура Кэбата. Нават самому Богу. Роля ўскладнена драматургам узроставымі ўмовамі. Б. Баеву давяраеш, так што 76 гадоў ягонага персанажа сведчыць пра жыццёвую абазнанасць ды прыгажосць, мовім так, набліжэння да мафусаілавага веку, пра разліковасць, наравістасць ды зацятасць, якая часам мяжуе з наіўнасцю. Драматургам роля пададзена праз так званыя фрэйдысцкія комплексы. Л. Падбярозкіна, аднак, унікла рэю Фрэйдавых падтэкстаў, вывяраючы матывы паводзін ды ўчынкаў персанажаў (усіх), таму прачытанне матэрыялу О'Ніла можна назваць пэўна аблегчаным. Але паводле Фрэйда апошнім часам ставіць шмат хто, прытым не надта разумеючы, дзеля чаго, а глядач не заўжды прагне спазнання пакрыёмага паводле незнаёмага (для беларускіх тэатраў Фрэйд яшчэ не стаўся агульным месцам, але ўжо стаўся агульным штампам): Эрыху Фрому, які радасна ўдасканаліў Фрэйдавы папярэджанні, рэжысёр, відаць, давярае больш. Спектакль набыў рысы паэтычнай або апаэтызаванай драмы, хоць мог бы зрабіцца і прыпавесцю. Шматпластавая роля Эфраіма ўсё-такі ўзнялася над побытам. Трагедыю чалавека, якому помсціць сам Бог, Б. Баеў выказвае рванымі рэплікамі і доўгімі паўзамі. Мацней за ўсё яны ўражваюць у сцэнах ненатуральнай весялосці фермераў-суседзяў (у Кэбатаў нашчадак нарадзіўся!), а потым — невымоўнай роспачы...



А выдаваў шчаслівым, калі з маладою (трэцяю) жонкаю Абі выходзіў пад галіны сівых вязаў. Без валізаў, вандзэлкаў, хатулёў, — іхняя прыземленая бутафорыя спрацілa б адвечную прыўзнятасць добрай перамены: новае жыццё чакала Кэбата...

У Кэбатаў — нашчадак. Але — не ў тых Кэбатаў... Прырода ды каханне памянялі месцамі старога Эфраіма і маладога (увесь па маці) Эбіна. Эбін Кэбат — бацька немаўляці. Немаўляці, якім Бог, бласлаўляючы, пакараў Кэбатаў...

Д. Шчукіну (Эбін) ды А. Сафронавай (Абі) бракуе, бадай, толькі моцнага падсвядомага прыцягнення, — напраўду, выявіць яго, не расчараваўшы гледача, не «прадаўшы» яму да часу самую сцэнічную інтрыгу, надта цяжка. Акцёры, напрыклад, адметна выяўляюць, як персанажы ўначы адчуваюць адно аднаго праз сцены, але пры дзённым святле нібы губляюць адчувальнасць, а мусяць толькі прыхаваць, прыцішыць яе. Трэба зважыць і на празрыстасць рэжысёрскай работы: другі ўзровень дома, дзе адбываецца ўся відавочная прэлюдыя кахання Абі ды Эбіна, нібы сімвалізуе сабою дачыненні іншага ўзроўню — летуценныя, радасныя, мілосныя. У другім узроўні мастак асталяваў спальні...

Дуэт Шчукіна і Сафронавай перадусім абаяльны. І там, дзе партнёру бракуе простай сцэнічнай дасведчанасці, партнёрка выяўляе ўражлівую прафесійную далікатнасць. Але крохкай паэзіі іхніх дачыненняў, як і ўсяму паэтычнаму ладу спектакля, — нават тэмпа-рытмічнаму існаванню персанажаў! — супярэчыць вырашэнне трэцяга акта і фінал. Рэжысёр збіваецца на ілюстрацыю і прасталінейнасць, — у горшых традыцыях правінцыйнага тэатра. Галашэнкі-фермершы, што хвіліну таму апантана скакалі ды гучна зваднічалі (самая звада ў дом Кэбатаў, беручы пад увагу ўсё, што папярэднічала ёй, не можа ўварвацца груба, гучна, а плётка не можа абвяшчацца, як абвяшчаюць яе ўдзельнікі свята з нагоды народзінаў у Абі сына), у маляўнічых паставах супакойваюцца на авансцэне, сімвалізуючы роспач ды скруху. Да іх выходзіць... прывід Эбінавай маці (Л. Пакрэўская), каб пры дзённым святле прайсціся між узлаванымі людзьмі ды супакоіць іх... даравацъ ім... Або схіліць іх даравацъ Абі, якая задушыла сваё немаўля, не дачуўшы, не зразумеўшы Эбіна (мо таму, што прыслухвалася толькі да сябе?)... Фінал з прывідам выглядае тэатралізавана-перабольшаным, парушае меру заяўленай сцэнічнай умоўнасці. На жаль... Бо каштоўнасць спектакля бабруйскіх рупліўцаў якраз у нязмушанай празрыстай апаэтызаванасці шмат якіх чалавечых праяў ды відавочным скасаванні мяжы між Богавай карай ды блаславеннем...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*г. Бабруйск*

*На здымках: А. Сафронава (Абі); Д. Шчукін (Эбін), Л. Кучко (Сімяён) і М. Герасіменя (Пітэр).*

*Фота з архіва тэатра*

# ЖЫЦЬ ПЛЁННАЮ ЛЮБОЎЮ

***Амаль сорак гадоў жыцця аддаў Сяргей Еўдашэнка Брэсцкаму драматычнаму тэатру, дзе працаваў акцёрам і рэжысёрам. Цяпер ён — галоўны рэжысёр тэатра. Творчай манеры Сяргея Іванавіча ўласціва дэталёвая псіхалагічная распрацоўка вобразаў і адначасова вельмі асабісты падыход да драматургічнага матэрыялу. Пра гэта сведчыць і апошняя пастаноўка рэжысёра — камедыя Людмілы Разумоўскай «Пад адным дахам».***



**— Сяргей Іванавіч, скажыце, калі ласка, чым прывабіла вас гэтая п'еса?**

— Шлях да п'есы часам здараецца вельмі нечаканы. Адзначу, што мне падабаецца драматургія Людмілы Разумоўскай, а ў гэтай п'есе жанчыны трох пакаленняў прыгнечаны адною думкаю, агульны горкі сэнс якой: «Хіба я жыву? Хіба гэта можна назваць жыццём?» У іхнім адчуванні жыцця ёсць безвыходнасць, за якую мне, мужчыне, чамусьці сорамна. Сорам і прымусіў мяне ставіць п'есу...

**— Мо наша грамадства страціла старую сістэму адліку, а новай яшчэ не набыло?**

— Вы думаеце? Супраць слушнага «ідэаламі сыты не будзеш» мне няма чаго сказаць. Але сёння наўрад ці знойдзецца нейкі ідэал, які быў бы больш жаданы, чым грошы. Ідэал, які нельга было б... купіць. Але грошы таксама нельга прымеркаваць да ідэалаў, якія вызначаюць сэнс жыцця чалавека. Вось і атрымліваецца, што я не здатны пярэчыць, але і згадзіцца не магу, бо калі ўладараць грошы — музы нямеюць. Гэта не я прыдумаў. Акцёры развітваюцца са сваёй прафесіяй і кіруюцца ў бізнес, пагоня за жыццезабеспячэннем запанавала над усімі... Ды і наогул тэатр нібы згас, перастаў быць з'яваю ў жыцці грамадства, нібыта збянтэжыўся перад тым, што адбываецца за ягонымі сценамі, на вуліцы, застаўся без сучаснай драматургіі, якая, натуральна, не паспявае асэнсаваць цяперашнюю неразбярыху. І, вядома, гледачам не да нас цяпер, у барацьбе за выжыванне мы падпалі пад вадаспад масавай і камерцыйнай культуры, вымушаны вышукваць драматургію больш «эратычную», «смешную», «страшную»... Вось і ўзнікае пытанне: як захаваць псіхалагічную існасць тэатра, захаваць Чалавека на сцэне? Турбуе страта надзеі на нешта лепшае, веры ў нешта канкрэтнае. Я не наогул. Я пра сябе. Тэатр пачынаецца, ведаеце, адкуль? Не, не, не адтуль... Ён пачынаецца са слова «так». Не з адмўлення ўсяго і ўсіх, у тым ліку і чалавека, які паступова знікае са сцэны, бо вымушаны саступаць месца пачварнасці, скажэнню, абсурду, новаму варварству, — а са сцвярджэння. І як гэта зрабіць, калі мала ў што верыш? Мо выйсце ў рэлігіі? А хіба тое, што адбываецца, адэкватна руплівым высілкам рэлігіі? Намаганні ўсіх відаў мастацтва мізэрныя ў параўнанні з гэтай глабальнаю сілаю! А вынікі? Але я пакуль не губляю веру ў бессмяротнасць ітэатра. Неаднойчы здараліся ў гісторыі перыяды ягонага заняпаду, асабліва ў часы сацыяльных узрушэнняў, а пасля надыходзіла адраджэнне. Яшчэ спадзяюся, што наш калектыў вернецца нарэшце пасля шасцігадовых пакут у рэканструяваны будынак тэатра і атрымае добрыя ўмовы для працы. Ну і, магчыма, гэта выглядае смешна і наіўна... Пакуль яшчэ веру ў Жанчыну! Той, хто стварае, не можа разбураць! Гэта ненатуральна ў сваёй існасці і аснове. Пакуль яшчэ веру і спадзяюся на цудоўную сілу жаночай слабасці, бо жанчына жыве сэрцам, пачуццём успрымае свет эмацыянальна. З пазіцыі сучаснага прагматызму, агрэсіўнасці, жорсткасці — гэта слабасць. І адначасова гэта магутная сіла, тое адзінае, што здатна супрацьстаяць сучаснаму ачумленню.

**— Гераіні камедыі «Пад адным дахам» адчуваюць сябе няшчаснымі. Але ж шчасце заўсёды ілюзорнае, яно патрабуе ахвярнасці і самаадданасці, гэта хутчэй праява асобы ў розных жыццёвых стасунках. Па сутнасці, шчасце — гэта мастацтва жыць у рэчышчы агульначалавечай маралі. Ці не з-за таго пакутуюць гераіні спектакля «Пад адным дахам», што ім гэтае мастацтва даецца з вялікаю цяжкасцю?**

— Наадварот, яны робяць адчайныя спробы сумясціць свае вельмі высокія маральныя патрабаванні з не вельмі высокімі грамадскімі. Гэта ім не ўдаецца. Напэўна, гэта драма хутчэй грамадская, чым асабістая.

**— Нашы жанчыны апантаныя ідэяй працы, і адначасова могуць праседжваць гадзінамі каля тэлевізара ці пры тэлефоне. Лянота і актыўнасць — сімптомы нерацыянальнай арганізацыі жыцця. І каго трэба лячыць у першую чаргу? Людзей ці грамадства?**

— Грамадства. Бясспрэчна. Але яно складаецца з людзей. А таму трэба дапамагаць і людзям. Толькі я паставіў бы пытанне інакш: як лячыць? Але гэта, прабачце, вышэй маіх асабістых магчымасцей. Не ведаю.

**— Сяргей Іванавіч, у спектаклі «Пад адным дахам» вы выконваеце ролю суразмоўцы, які ўраўнаважвае жаночую эмацыянальнасць і надрыўнасць. Але ці можна навучыць людзей жыць плённаю любоўю, якая выяўлялася б у глыбокай духоўнай блізкасці пры захаванні цэласнасці асобы?**

— Думаю, што ўзровень цывілізаванасці грамадства вызначаецца ступенню абароненасці, увагі і нават, калі хочаце, пашаны да жанчын. Калі б было так, дык аранжавая камізэля, апратванне грамадскіх прыбіральняў, ваджэнне трактароў і шмат чаго іншага сталі для жанчыны недаступныя. Дык калі ж гэта магчыма? На мой погляд, калі дзейнасць грамадства будзе вызначацца ўзроўнем культуры, а эканоміка і ўсё іншае будзе падпарадкоўвацца духоўным і культурным запатрабаванням асобы, а не наадварот. Не сакрэт, што сёння культура — гэта цяжкая абуза для грамадства, з якою трэба лічыцца, пра якую трэба клапаціцца. Каб замест рэкламы МММ-інвест я раптам убачыў рэкламу сур'ёзнай і змястоўнай кнігі, дык, напэўна, страціў бы прытомнасць ад здзіўлення...

**Гутарку вяла Зінаіда ДУДЗЮК**

*Фота Юрыя КУСКОВА*

# АНТРАКТ... ДА ВОСЕНІ



Прэм'ерай оперы Д. Шастаковіча «Лэдзі Макбет Мцэнскага павета» («Кацярына Ізмайлава») завяршыў сезон Акадэмічны тэатр оперы і балета Беларусі. Спектакль пастаўлены пад музычным кіраўніцтвам галоўнага дырыжора тэатра А. Анісімава, рэжысура М. Ізворска-Елізар'евай, мастак В. Окунеў.

Гледачам, якім не давялося пабачыць сцэнічнае ўвасабленне знакамітай на ўвесь свет оперы са складаным тэатральным лёсам, давядзецца стрымліваць сваю цікаўнасць да восені: у ДАВТе — не, пакуль не вакацыі, а хутчэй антракт. Бо адпачываць opernaй трупе не выпадае: пачынаецца гастрольная вандроўка па гарадах Іспаніі са спектаклямі «Рыгалета» ды «Чыо-Чыо сан».

Н. К.



*На здымку: сцэны са спектакля «Лэдзі Макбет Мцэнскага павета».*

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

# ЗНАЁМЦЕСЯ: НОВЫ ЧАСОПІС «КРЫЎЯ»




Выйшаў у свет першы нумар часопіса «KRYUJA». Паколькі выдаўцом часопіса з'яўляецца Цэнтр этнакасмалогіі «Крыўя», то ў асяродку ўвагі найперш знаходзіцца крыўская (беларуская) этнакасмалогія, пытанні этнагенезу, этнічнай гісторыі, этналінгвістыкі, этнапсіхалогіі, культуралогіі. У першы зборнік увайшлі артыкулы наступных аўтараў: С. Санько «Сюжэт пра зніклага бога»: гецка-крыўскія (беларускія) паралелі», Г. Даўгяла «Некаторыя фантастычныя біблейскія вобразы і сімвалы ў параўнаўча-міфалагічным асвятленні», У. Лобач «Паганства і хрысціянства: беларускі выпадак» і іншыя.

Такім чынам, галоўным прадметам зацікаўлення выдання будзе «этнічны Космас» ва ўсёй мнагастайнасці ягоных праяў — ад максімальна сакралізаваных да самых простых і побытавых.

Па пытаннях набыцця звяртацца: 220030, Мінск-30, п/с 29, тэл. 27-82-83.

З паэтычнай пошты

# ВЕРШ ПРЫДУМАЦЬ — ГЭТА ПРАЦА

Тамара Аляксееўна Лётка, перш чым паказаць нам сшытак з вершамі, расказала пра сваё жыццё. З годнасцю апавядала яна пра тое, што пісаць пачала з чацвёртага класа, што наведвала літгурток Крычаўскай раённай газеты і нават бачыла тады самога Аркадзя Куляшова. Ды пазней з паэзіяй давялося развітацца: медыцынскі інстытут, праца педыятрам, якая прыйшлася па густу, пераезды ўслед за мужам-ваеннаслужачым...

Але вось нарэшце атрымалі пастаяннае месца жыхарства — у Барысаве, там і на пенсію пайшла, а значыць — займела вольны час. Вершы Т. Лёткі, пэўна, не адпавядаюць крытэрыям прафесійнай творчасці, затое кранаюць свежасцю ўспрымання, непасрэднасцю паэтычнай інтанацыі. А больш за ўсё здзіўляе тое, што, размаўляючы ўсё сталае жыццё па-руску, яна здолела захаваць чысценькую літаратурную мову...

**Аддзел літаратуры**

## Тамара ЛЁТКА



**Верш прыдумаць — гэта праца**
**Вельмі кволая, але**
**За яе дык нават брацца**
**Трэба з Богам на чале.**

**Ну, вядома ж, сам ствараеш,**
**І памылкі могуць быць,**
**Ды падказку зверху маеш,**
**Што і як перарабіць.**

**А таму яго належыць**
**Не адразу друкаваць,**
**Як напішаш, скажам, свежы —**
**А прыладзіць, даспяваць,**

**Падраўняць, падкрэсліць думку,**
**Час праверыць і лады...**
**Верш найлепшага гатунку**
**Атрымаецца тады.**

## ХЛЕБ НАШ СЁННЯШНІ

**Загляну я у харчовы**
**Наш дзяржаўны магазін.**
**Там штодзень перабудовы**
**Адбываюцца у ім.**

**Уваходжу — і да хлеба,**
**Дзе прыемны водар быў.**
**А ён сёння аж пад неба**
**Пару цёплую пусціў.**

**Хлеб барысаўскі з прылаўка**
**Па нябеснай па цане**
**Без чаргі, без ціску, даўкі —**
**Ці паверыце, ці не?**

**Узяла адзін вялікі.**
**Цёплы, мяккі, рукі грэў...**
**Покуль зводзілі разлікі,**
**Крыху ён пахаладзеў.**

## АБ МОВЕ

**Беларусь, мая старонка,**
**Ты дзяржава, так сказаць,**
**Зноў, як нітку у іголку,**
**Мусіш мову удзяваць.**

**А раз так — давайце, людзі,**
**Жыць прыгожа, багацей.**
**Дык і мова наша будзе**
**Не для быдла, для людзей.**

**Ад хваробы лечаць словы,**
**Падымаюць нам настрой...**
**Хай жа будзе наша мова**
**Лепш за лекарскі настой.**

## А ЧАМУ ГЭТА, СКАЖЫ?

**На жаночае на свята —**
**Асалода на душы,**
**Не іду — ляту дахаты.**
**А чаму гэта, скажы?**

**Мае думкі точаць ходы,**
**Выпрабляюць віражы,**
**Ты у іх адзін заўсёды.**
**А чаму гэта, скажы?**

**Многа блізкіх ёсць на свеце,**
**Радаслоўных і чужых —**
**Сама бліжай ты і дзеці.**
**А чаму гэта, скажы?**

**З міласэрнае крыніцы**
**Запаўняю гладышы,**
**Каб памыцца — ажывіцца.**
**А чаму гэта, скажы?**

*г. Барысаў*

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЗЬ

*(Пачатак на стар. 8-9)*

руку. — Я не быў супроць, што мяне крытыкавалі, я не хацеў, каб мяне знішчалі.

Пасля такой экскурсіі, я ведаў, дарогу назад не знайду. Я сказаў пра гэта Агрызку, і ён ахвотна згадзіўся правесці мяне да волата дуба. Але перш паставіў на стол медны, з угнёнымі бакамі самагрэй, і мы папілі з гліняных чарапак пахнючага травянога чаю.

«Я не ведаю, што і чаму найперш западае ў розум іншаму з агляду маёй рэзі, — сказаў мне на развітанне Агрызка, — толькі, я ўпэўнены, не тое, што мне... Іначай я не быў бы тут».

Ідучы, я доўга адчуваў спінаю Агрызкаў позірк. А мне здавалася, што гэта глядзіць сама Вечнасць, якая ходзіць за намі па крузе.

### III.

Вярнуўшыся ад Агрызкі, я з тыдзень пераварваў у сваёй свядомасці ўражанні. Я акурат адгарадзіўся ад вонкавага блізкага свету, лунаючы дзесьці над планетаю Агрызкавай «беларускай рэзі». Таму я і не прыкмячаў вакол сябе змен увогуле, не кажучы ўжо пра панароўкі людзей. Не можа быць адкрыцця, думаў я, калі хоць крышачку не пасунешся за мяжу звычайнага, зразумелага ўсім, калі не скрывіш убок з наезджанай каляіны.

Урэшце апусціўшыся на зямлю, я здзівіўся адчужанасці Сталевіча. Ён зладзейкавата бліскаў на мяне вачыма і стараўся ўнікаць размоў. Я разумеў, што гэта не так сабе. І неўзабаве мае здагадкі ды падазрэнні праясніліся.

Пазваніла з прыёмнай райкама сакратарка — маладая, з тварам мадонны дзяўчына, якая часта прыходзіла ў рэдакцыю па газеты, — і сказала, што мяне запрашае першы сакратар. Я адразу ўсёк, што справа не ў рабоце, бо ў такім разе выклік ішоў бы праз аддзел прапаганды і агітацыі. Сэрца маё атуліў непрыемны халадок. Перабраўшы з дзесятак падзей апошняга часу, я не знайшоў, на чым спыніцца, што магло б зацікавіць першага. А тое, што магло, да яго не павінна было дайсці. Які ж я быў наіўны і дурнаваты, калі думаў, што між людзьмі ў маленькім калектыве ўсё будуецца на даверы! Сакратар не сустрэў мяне ўсмешкаю, бадзёрым голасам і прыязным поціскам рукі, як раней. Моўчкі кіўнуў, каб я садзіўся, і доўга гартаў у шыкоўнай чырвонай тэчцы з залатым ціснennем паперы. Якісьці спісаны шарыкавым даўгапісам аркуш чытаў і хмыкаў. У яго была круглая, бы качан, галава з бліскучай лысінаю, адно каля вушэй прыляпіліся камячкамі лішайніку сівыя кучаравыя валасы. Вены на ягоным лобе і скронях былі не набрынялыя, як звычайна ў людзей, а праваленыя равочкамі, быццам ім не хапала току крыві.

Сонца біла кулакамі промняў у шырокія вокны кабінета.

— Мне стала вядома, што вы ступілі на небяспечны шлях, — нарэшце сказаў сакратар і вытрымаў вялікую пярэрву. Ён гладзіў пальцамі клін падбародка, быццам правяраў, ці чыста выгалены. Самая вялікая асалода ад улады — гэта магчымасць караць, падумаў я і адразу прыгадаў свой паход на хутар да Агрызкі. Але сакратар далейшымі словамі адкінуў мае ўспаміны ў глыбейшую даўніну: у веснавы зольны вечар. — У святым месцы маладому камуністу... такім займацца...

— У «святым» — гэта маецца на ўвазе царква ці рэдакцыя? — Я і праўда — бажуся — не зразумеў.

— Вы здзекуецеся? — суровым голасам асадзіў мяне сакратар, мабыць, улавіўшы ў маім пытанні насмешку, хоць я не думаў аскірзацца. — Пры чым тут царква? Газета — орган райкома партыі, а вы сееце ў ёй распусту, амаральнасць... Знайшлі дзе каханнем займацца!

— А ў чым тут амаральнасць? — міжволі ў маіх грудзях нарастала нязгода. — Каханне, па-мойму, самае чыстае пачуццё на свеце...

— У ідэалагічнай установе яно набывае зусім іншае адценне. Як вы не разумееце? А мы яшчэ збіраліся ставіць вас першым сакратаром райкома камсамола... Цяпер я бачу, выйшла памылка.

Шчыра кажучы, я разгубіўся: нават не чуў, што маю сядзелку прымеркавалі да саліднага крэсла.

— Але гэтая ваша правіннасць блякне ў параўнанні з іншай... — сакратар закрыў тэчку і зноў доўга маўчаў, гэтым самым асаджваючы ўвесь мой магчымы пратэст. Вопытны, халера, душазнаўца! Тут я хутка здагадаўся, куды верне партыйны лідэр. — Вы мала што амаралку дапусцілі, дык хадзілі да ідэйна **порчанага** (ужыў менавіта гэтае слова) чалавека, нацыяналіста, які насатвараў усякай лухты і ёю хацеў штосьці нам даказаць...

Зразумеўшы, што сакратар усё ведае, я вырашыў не круціць хвастом, выкладваць усё начыстую.

— А мне, папраўдзе, акурат здалося, што ўсе Агрызкавы выявы ў традыцыях беларускага фальклору, народных умельцаў...

— Такога фальклору я не ведаю, — адрэзаў сакратар і ляпнуў далонню па тэчцы. Я звярнуў увагу на ягоныя чыстыя, дагледжаныя пазногці і пранікся павагаю да сакратара. Звычайна ў ахайнасці мужчын самае заганнае месца — пазногці.

— Ну ўсё правільна, — сказаў я, дэманструючы сваю рахманасць, каб развіць думку далей. — Але на ўжо напрацаваным грунце кожны мастак творыць свой свет. Вось...

— Гэты бязглузды Агрызкаў свет не ўкладваецца ў сапраўднае мастацтва! — адштурхнуў сваё тлуставатае цела ад стала сакратар. — Дык што, загадаеце тлуміць ім галовы людзям? Няўжо вы думаеце, што, калі б там было за нешта зачапіцца, мы не скарысталі б у сваёй прапагандзе?

Мне так і рымсціла спытаць: а які гэта спец вызначыў тое «нешта», з чаго ён зыходзіў і што значыцца — **свая** прапаганда? Але я не спытаў, адчуваючы, што гаворка зойдзе ў тупік, разбурацца які будуць ужо аргвывады. Я, малады, як кажуць, насупраць жыцця, не быў гатовы да такой мужнасці, каб хаваць сябе пад абломкамі. Цяпер мяне больш займала і разрывала гарчэчаю грудзі тое, якім чынам гэтыя мае правіннасці дайшлі да першага сакратара райкама. Дзіўная, канечне, прырода чалавека: Сталевіч, бацька якога, мусіць, таксама пацярпеў ад удавалы, накляпаў на мяне ў райкам. Дзеля чаго, за што? Каб выратаваць сябе, рэабілітаваць, купіць за данос кар'еру? Ён быў зусім не дурны, гэты Сталевіч, і тым больш мне было шкада разрыву з ім. Так, я не буду імкнуцца зразумець яго: у маёй душы ягонаму ўчынку не знойдзецца апраўдання. Кампраметацыя іншага — ніжэйшы парог падзення маральнасці чалавека.

Сакратар падсунуў мне аркуш і сказаў, каб я пісаў раскайванне — за амаральнае каханне, за сувязь з беларускім нацыяналістам... У амаральным каханні я, вядома, раскаяўся, а ў сувязях з беларускім нацыяналістам — не паверыце — не. На працы ў рэдакцыі мяне, дзякуй Богу, пакінулі, у мяккім жа крэсле камсамольскага функцыянера пасядзець не давялося. А шкада: кажуць, пажыў бы як чалавек.

* * *

Я не ведаю, дзе цяпер Агрызка, што з ягонай «беларускай рэззю». Можа, ён ужо памёр, а «рэзь» згарэла альбо згніла на тым хутары, ці зусім перавандравала ў якуюсь прыватную калекцыю, магчыма, і за мяжу. Маглі быць й іншыя павароты лёсу. Выдадзеная кніга асядае ў шмат якіх месцах, а «рэзь» была выканана па адной штуковіне і шанцаў захавацца ў яе мізэрна мала. І ўсё-такі я спадзяюся, што Бог быў літасцівы да аднаго са сваіх пакутнікаў...

***Здаецца, яшчэ зусім нядаўна я са сваімі сябрамі з вялікай цікавасцю перагортваў старонкі першых нумароў часопіса «Полацак», што з канца 1990 г. пачаў выходзіць у амерыканскім горадзе Кліўлендзе (штат Агаё). А сёння... Сёння ж мною з вялікай зацікаўленасцю прачытаны яго трыццаты нумар. Гэты своеасаблівы юбілей і падштурхнуў мяне ўзяцца за пяро і выказаць свае меркаванні адносна «Полацака», які, не перабольшу, адразу ж паланіў душы і сэрцы многіх чытачоў.***

# «ПОЛАЦАК» НАБІРАЕ РАЗМАХ

Азнаёміўшыся з яго першым нумарам, Сяргей Законнікаў шле сваім калегам у далёкім Кліўлендзе верш, які заканчваўся такімі словамі-пажаданнямі: «Хай «Полацак» узносіць дух Скарыны і словам поіць сэрцы землякоў!» Ухваліў «памкненне беларусаў далёкай для нас Заакіяншчыны стварыць свой нацыянальны часопіс са святой для ўсяе Беларушчыны назовай «Полацак» народны пісьменнік Беларусі, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Васіль Быкаў. Павіншавалі чытачоў, фундатараў-спрыяльнікаў, выдаўцоў часопіса «Полацак» ад імя сяброў Беларускага ПЭН-цэнтра Рыгор Барадулін, ад Сойма Беларускага народнага фронту — намеснік яго старшыні, навуковец Міхась Ткачоў. Яму належаць словы, да якіх, напэўна ж, не маглі не прыслухацца беларускія выдаўцы з Кліўленда: «Няхай жа зойме сваё месца ў шыхтах Беларускага «Адраджэння» й часопіс «Полацак». Гэтая надзённая праблема прысутнічае амаль у кожным яго нумары. Аб тым, як яна асвятляецца, і пойдзе ў мяне больш падрабязная гаворка, бо на сёння ў нас няма больш актуальнай задачы, як нацыянальна-культурнае Адраджэнне.

На працягу апошніх ста гадоў беларускі народ двойчы ўступае ў паласу свайго нацыянальна-культурнага Адраджэння. Першая спроба трагічна закончылася для нас у выніку масавых рэпрэсій 30-х гадоў. Але і яна назапасіла багацейшыя матэрыялы, грунтоўны аналіз якіх шмат у чым можа дапамагчы пры вырашэнні данай праблемы на сучасным этапе гісторыі. Таму трэба толькі вітаць, што рэдакцыя часопіса «Полацак» з такой прыхільнасцю ставіцца да азнаямлення сваіх чытачоў з нялёгкім, складаным лёсам беларускага адраджэнскага руху канца XIX — першых двух дзесяцігоддзяў XX ст. Той, хто рэгулярна сочыць за часопісам «Полацак», знаходзіць у ім многа такіх матэрыялаў, якія яшчэ не друкаваліся ў перыёдыцы Рэспублікі Беларусь.

Сур'ёзную размову па праблеме Адраджэння часопіс адкрыў ужо ў сваім трэцім нумары артыкулам В. Круталевіча «25 сакавіка 1918 г. у гісторыі самавызначэння Беларусі» (меў працяг у двух наступных нумарах). Асабліва цікавым для чытача тут будзе азнаямленне з поглядам аўтара артыкула на факт паслання ў красавіку 1918 года некаторымі сябрамі Рады БНР тэлеграмы нямецкаму кайзеру Вільгельму II з удзячнасцю за вызваленне Беларусі ад бальшавікоў, на што яшчэ і сёння не існуе адзінай думкі ў вучоных. Адсутнічае яна і ў пытанні: ці была БНР рэальным суверэнным дзяржаўным утварэннем? Заяўляючы, што «БНР не склалася», Вадзім Круталевіч усё ж бачыць у асобе яе Рады свайго роду палітычны цэнтр, які «выступіў у ролі абаронцы інтарэсаў нацыі, яе правоў на самастойную дзяржаўнасць».

Праблему беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння «Полацак» імкнецца паказаць праз канкрэтную дзейнасць слынных асоб, якія бралі найбольш актыўны ўдзел у ім і пакінулі ў гісторыі прыкметны след аб сабе. Тут варта адзначыць артыкул М. Сташкеіча і Ю. Смірнова «Палітычны партрэт Зміцера Жылуновіча». Аўтары высока ацанілі артыкулы пісьменніка па праблемах вызваленчага змагання ў беларускім рэгіёне, развіцця нацыянальнай культуры, фармавання беларускай інтэлігенцыі і яе месца ў нацыянальна-адраджэнскім руху, раскрыцця ідэалагічнай, палітычнай падаплёкі тэатральнай дыскусіі 1928 года. З публікацыі чытач даведаецца, што Зм. Жылуновіч пачне адступаць ад ісціны па самых прынцыповых пытаннях (магчыма, пад уціскам) толькі тады, калі з мэтай аднаўлення свайго членства ў бальшавіцкай партыі выкажа гатоўнасць «прызнаць тое, з чым не буў згодны, асудзіць тое, што ў душы лічыў правільным» і нават пойдзе на напісанне артыкула «Нацыянал-дэмакраты за «працай» (надрукаваны ў першым нумары часопіса «Камуністычнае выхаванне» за 1931 г.), у якім у крывым люстэрку паказаў змаганне за беларускую ідэю.

Падобны надлом у поглядах і паводзінах адбыўся таксама ў другога вядомага дзеяча нашага нацыянальнага Адраджэння, ініцыятара абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі Аляксандра Цвікевіча. Яго следчыя паказанні органам НКУСа, падрыхтаваныя да друку У. Міхнюком, змешчаны ў другім і трэцім нумарах часопіса «Полацак» за 1992 год пад загалоўкам «Ліквідацыя БНР не была манеўрам».

Працуюць на наша нацыянальнае Адраджэнне публікацыі Я. Юхо, хаця датычаць яны перыяду сярэдневечча. Аўтар закранае ў іх пытанні беларускай дзяржаўнасці, г. зн. якраз тое, ад чаго ў вырашальнай ступені залежыць дасягненне нашым народам поўнага, рэальнага нацыянальнага суверэнітэту. Раіў бы ўсім тым, хто яшчэ і сёння сумняваецца ў наяўнасці ў перыяд Вялікага княства Літоўскага ў беларускага народа ўласнай дзяржавы, прачытаць яго артыкулы: «Уніі Вялікага княства Літоўскага» (1991, NN 6, 7) і «Кароткі нарыс па гісторыі і права Беларусі» (1992, NN 6—10; 1993, NN 1, 2).

Істотна дапаўняе нашыя веды па данай праблематыцы артыкул А. Грыцкевіча «Узнікненне феадальных дзяржаў беларусаў у працэсе ўтварэння дзяржаў у славян» (1993, N 8).

Належнае асвятленне на старонках часопіса «Полацак» знайшла і праблема рэлігійнага жыцця беларусаў, што дапамагае ліквідаваць нашую яшчэ і пасёння вялікую недасведчанасць у гэтым. Першым распавёў гаворку з чытачом С. Тарасаў у артыкуле «Адкуль пайшло хрысціянства ў Беларусі?» (1991, N 10). Вельмі пераканаўчымі падаюцца яго меркаванні, што хрысціянства ў Полацкім княстве было вядома яшчэ да прымусовага хрышчэння ў 988 годзе князем Уладзімірам кіяўлян у водах Дняпра, што гэтую веру спавядала дачка князя Рагвалода Рагнеда, што палачане прымалі хрышчэнне не толькі ад Кіева, таму і не заўсёды знаходзіліся ў залежнасці ад яго ў пытаннях веравызнання. Перакідваючы масток у сучаснасць, С. Тарасаў слушна заўважае: «...агульначалавечыя, агульнагуманістычныя Божыя словы тым хутчэй дойдуць да душы народа, чым хутчэй загучаць яны на мове народа з царквы...», што, думаю, прыме ўсякі, хто жадае бачыць сваю Бацькаўшчыну адроджаным краем.

Шэрагам цікавых артыкулаў адгукнуўся «Полацак» і на тысячагоддзе з дня заснавання Полацкай епархіі. У першую чаргу тут трэба спаслацца на публікацыі Ю. Штыхава «Аб стварэнні Полацкай епархіі» і М. Ермаловіча «Полацкая епархія і яе роля ў пачатковай гісторыі Беларусі», змешчаныя ў першым нумары за 1992 год. Аўтары не называюць Полацкую епархію праваслаўнай. І яны маюць рацыю, бо канчатковае падзяленне хрысціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную адбылося на некалькі дзесяцігоддзяў пазней, як была закладзена Полацкая епархія, — у 1054 годзе. Як далей развівалася рэлігійнае жыццё, вельмі добра паказана ў артыкуле Ю. Штыхава «Асноўныя этапы гісторыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі» (1992, N 8).

Як вядома, ад даўняга і да сённяшняга часу беларусы з'яўляюцца народам поліканфесійным, таму часопісу, акрамя асвятлення праваслаўя і каталіцтва, варта паказваць жыццё вернікаў усіх канфесій, да таго ж не толькі хрысціянскіх.



№2(32), 1994

Не абыходзіць часопіс увагай усяго таго, што датычыць нашай гісторыі, прычым і самай старажытнай. Тут, бадай, першынство трымае добра вядомы сярод беларусаў метраполіі, блізкага і далёкага замежжа Ю. Штыхаў. Акрамя ўжо згаданых яго артыкулаў, можна яшчэ назваць наступныя: «З гісторыі вывучэння крыжа прападобнай Ефрасінні» (1992, N 6), «Палітычны лад Полацкай дзяржавы ў X—XIII стст.» (1993, N 6), «Аб знешняй палітыцы Полацкага княства ў X—XIII стст.» (1993, N 7).

Стагоддзямі вучоныя вядуць паміж сабою гарачыя спрэчкі адносна найбольш прынцыпова важных пытанняў этнічнай гісторыі нашага краю. Такога роду публікацыям ахвотна даюць месца і выдаўцы «Полацака». З салідным артыкулам «Да пытання прыналежнасці старажытных ліцьвінаў» выступіў П. Урбан. Усе дзесяць нумароў 1992 года былі адведзены асвятленню гэтай праблемы. З першага па чацвёрты нумар 1993 года часопіс змясціў яго новы артыкул па блізкай да папярэдняй праблематыцы: «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных славян». У П. Урбана шмат арыгінальных думак, з якімі мне не даводзілася сустракацца ў іншых навуковых працах, ці якія ў чымсьці адрозніваюцца ад ужо ўсталяваных поглядаў. Аўтар выкарыстаў безліч розных, часта вельмі рэдкіх, літаратурных крыніц. Патрэба ў такіх публікацыях велізарная, таму што і сёння з чыста палітычных меркаванняў распаўсюджваюцца зусім не навуковыя погляды аб этнічнай гісторыі беларусаў.

Пішa «Полацак» і пра самыя балючыя ў нашым жыцці старонкі Другой сусветнай вайны, якая так па-рознаму, але ва ўсіх выпадках вельмі балюча, жорстка паласавала наш жывы нацыянальны арганізм. Істотным дапаўненнем да таго, што нам вядома пра вайну, з'яўляюцца «Уласнаручныя паказанні Езавітава Канстанціна Барысавіча» (1992, NN 6—10; 1993, NN 1—4), адшуканыя У. Міхнюком і Я. Паўлавым у архівах КДБ Рэспублікі Беларусь. Раю таксама чытачам прачытаць: «Протокол допроса Константина Езовитова» (1993, N 5) і артыкул У. Брылеўскага «Сустрэча з Канстанцінам Езавітавым» (1993, N 6).

З больш дробных матэрыялаў пра мінуўшчыну Бацькаўшчыны хацеў бы назваць наступныя: «Вяртанне святыні» (1991, N 4; пра Ефрасінню Полацкую) У. Арлова, «Вялікі пасад у Полацку» (1991, N 5) С. Тарасава, «Як апраналіся нашыя продкі» (1992, N 3) Л. Дучыц, «Манетныя двары на тэрыторыі Беларусі» (1992, N 9) В. Касмылёва, «Бібліятэкі на беларускім шляху Адраджэння» (1993, NN 7, 8) В. Герасімава, «Полацкая кнігарня» (1993, N 9) У. Содаля.

Тэматыка «Полацака» — пераважна гісторыка-культуралагічная. Ніхто не стане выказвацца супраць яе, улічваючы, які і пасёння існуе ў нас голад на сур'ёзныя публікацыі па гісторыі і культуры Бацькаўшчыны. Такі ж голад зведваецца і на публікацыі аб мінулым і сучасным жыцці беларускай дыяспары, хаця на іх і вельмі ахвотна адгукаюцца выдаўцы разглядаемага часопіса. Усё, што змешчана па ёй, прачытаў з вялікай зацікаўленасцю.

Шукаў у часопісе «Полацак» матэрыялы і яшчэ па адной надзвычай актуальнай праблеме, якой ніяк нельга абыходзіць сёння. Гэта — уладкаванне нашага няпростага эканамічнага жыцця. Дзяржаўныя дзеячы і вучоныя не першы год б'юцца над выхадам краіны з цяжкага эканамічнага крызісу, а ён набірае ўсё больш пагражальны характар. Адна з прычын — няўменне жыць паводле законаў рыначнай эканомікі, на чым амерыканцы ўжо даўно «зубы з'елі». Не сумняваюся, што дасканала разбіраюцца ў ёй і нашы суродзічы ў ЗША, сярод якіх ёсць і вучоныя, і буйныя прадпрымальнікі. Дык чаму ж ім разам са сваімі калегамі з Беларусі не паспрабаваць падыскутаваць па данай праблеме? Першы крок у гэтым кірунку, дарэчы, зроблены: у 9—10 нумарах за 1993 год змешчаны артыкул І. Нікітчанкі «Аб галоўных прычынах крызісу сельскай гаспадаркі ў Беларусі». І. Нікітчанка — вучоны-эканаміст з Беларусі. А вось як глядзяць на нашы архіцяжкія эканамічныя праблемы за рубяжом, у тым ліку і сама беларуская дыяспара, якімі ўяўляюцца шляхі выхаду з крызісу? Мяркую, гэта хацелася б даведацца многім чытачам.

Як чытача і грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, мяне вельмі засмучае асвятленне найвялікшай падзеі ў гісторыі нашага народа — леташняга Першага з'езда беларусаў свету. Шмат пісалася толькі пра падзеі, што папярэднічалі з'езду. Але варта было дэлегатам раз'ехацца, як усё забылася, а калі штосьці і ўспаміналася, дык хутчэй у негатыўным плане.

Не задавальняе мяне і зробленае часопісам «Полацак» па азнаямленні чытачоў з матэрыяламі Першага з'езда беларусаў свету, хаця тут яго набыткі трохі багацейшыя. Думаю, што чытачамі прыхільна былі б сустрэты поўныя тэксты выступленняў на з'ездзе, публікацыя якіх у паасобнай кніжцы стаіць пад вялікім сумненнем.

Нарэшце вось пра што. У часопісе «Полацак» рэгулярна выступаюць самі выдаўцы яго — рэдактар і сакратар Святлана Белая і Міхась Белямук ці не самыя частыя і аўтары. Апошні з іх у 1991 годзе прыцягнуў увагу многіх дзвюма цікавымі публікацыямі: «Лісты ад Міколы Ермаловіча» (NN 4—8) і «Эмблема на шчыце герба «Пагоня» (NN 8—10 і NN 1—4, 6 за 1992 г.). З восьмага нумара 1992 года Міхась Белямук радуе чытачоў «Полацака» артыкулам з працягам «Тапаграфія знаходак манет і аздобаў», які не скончаны і ў апошнім нумары 1993 года. Вельмі патрэбная крыніцазнаўчая праца па праблемах нумізматыкі. Вучоныя і краязнаўцы знойдуць у ёй багаты, а падчас малавядомы і унікальны матэрыял аб манетных і манетна-рэчавых скарбах на тэрыторыі Беларусі і суседніх абласцей. Артыкул варты таго, каб быць выдадзены асобнай кнігай.

Тое ж можна сказаць і пра Святлану Белую. З трыццаці нумароў часопіса я знайшоў толькі адзін без яе матэрыялаў, найчасцей — гісторыка-культуралагічных. Асабіста я з цікавасцю азнаёміўся з урыўкамі яе будучай кнігі «Максімава Яраслаўя» (1991, NN 3—10), прысвечанай Максіму Багдановічу. Талент сапраўднай даследчыцы паказала яна ў артыкуле «Віленскія беларусы расказваюць» (1992, NN 2—6, 9; 1993, NN 1, 2, 5).

Верыцца, што выдаўцы «Полацака» і надалей будуць працаваць у такім жа напружаным творчым рытме, бо лёс часопіса практычна цалкам залежыць ад іх стаiранняў. Ён варты доўгага жыцця дзеля справы беларускага адраджэння.

Калі кагосьці зацікавіць, дзе ў нас можна набыць часопіс «Полацак», адкажу: у кіёску Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, што знаходзіцца на праспекце імя Ф. Скарыны ў Мінску непадалёк ад ГУМа.

**Леанід ЛЫЧ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ЛІПЕНЬСКІ «ПЕРШАЦВЕТ»

**Адкрываецца нумар вершамі І. Снарскай. Маладая паэзія прадстаўлена і творамі В. Барысюка, Д. Дземянцюк, А. Дуброўскага, І. Сінкевіч, А. Гуцава, А. Каладзінскай, А. Дзітрыха, М. Віча. Празаічныя старонкі нумара — апавяданні Р. Равякі, М. Лукшы, аповесць А. Давыдава «Пілігрымы».**

**У «Гасцёўні» прадстаўлены — вершамі М. Купрэеў, апавяданнямі — Хв. Жычка.**

**Л. Рублеўская гутарыць з жонкай І. Мележа — «Не ўмеў жыць для сябе...» Поруч згадкі Лідзіі Якаўлеўны Пятровай-Мележ «Сцяжынамі мінулага».**

**Павел Пруднікаў («Яго прымусілі маўчаць») знаёміць з паэтам Рыгорам Папарацем, публікуюцца і асобныя вершы гэтага аўтара.**

**На завяршэнне нумара — гумарэска А. Трубея «Як дзед парасят прадаваў».**

## НАШ КАЛЯНДАР

**6 жніўня — 110 гадоў з дня нараджэння журналіста, літаратуразнаўцы, бібліёграфа, бібліятэказнаўцы Яўгена ХЛЯБЦЭВІЧА (1884—1953). У 1912 годзе з'явілася праца Я. Хлябцэвіча «Бібліятэкі і кааперацыя» — адна з першых работ па тэорыі і арганізацыі бібліятэчнай справы на Беларусі. У 1914 годзе выйшла яго праца «Адраджэнне беларускай народніцкай літаратуры». У 1917 годзе перавыдадзена як «Народніцкая паэзія беларусаў». Аўтар артыкулаў і ўспамінаў пра Я. Баршчэўскага, Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, А. Бурбіса.**

**7 жніўня — 70 гадоў з дня нараджэння таджыкскага паэта Мухітдзіна ФАРХАТА (ХАСАНАВА, 1924—1984). У гады Вялікай Айчыннай вайны вызваляў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Віцебск і Полацк. У перакладзе М. Фархата выйшлі зборнікі вершаў Я. Купалы «Сонцу» (1965), «Доля беларуса» (1982), Я. Коласа «Наш шлях» (1965). Прымаў удзел у Тыдні таджыкскай літаратуры на Беларусі (1966). Вершы М. Фархата на беларускую мову перакладалі К. Кірэенка і Р. Няхай.**

**11 жніўня — 115 гадоў з дня нараджэння яўрэйскага пісьменніка Цодзіка ДАЎГАПОЛЬСКАГА (1879—1959). Пісаў на рускай і яўрэйскай мовах. Аўтар рамана «Каля адчыненай брамы», апавяданняў, фельетонаў, аповесцяў.**

**14 жніўня — 200 гадоў з дня нараджэння гісторыка і публіцыста Міхала БАЛІНСКАГА (1794—1864). Першая яго буйная гісторыка-краязнаўчая праца «Гісторыя горада Вільні» ў двух тамах (1836—1837). Выдаў трэці том «Старажытнай Польшчы» (1846), дзе апісаў многія населеныя пункты Беларусі. У 1842—1843 гадах падрыхтаваў кнігу пра Крэўскі замак. Напісаў гісторыю Віленскага універсітэта, выпускніком якога з'яўляўся. Знайшоў і апублікаваў «Ліст да Абуховіча» — помнік літаратуры XVIII стагоддзя. Аўтар памятнага запісу ў славутым «Альбоме» А. Вярыгі-Дарэўскага.**

**16 жніўня — 120 гадоў з дня нараджэння грамадскага дзеяча, выдаўца, публіцыста Аляксандра УЛАСАВА (1874—1941). У 1906—1914 гадах рэдагаваў газету «Наша Ніва».**

**18 жніўня — 130 гадоў з дня нараджэння чэшскага пісьменніка, вучонага-славіста Адольфа ЧЭРНАГА (1864—1952). Пераклаў паасобныя вершы Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі. Высока цаніў творчасць Я. Купалы. Двойчы наведаў Беларусь, зрабіў запісы народных песень.**

**18 жніўня — 80 гадоў з дня нараджэння крытыка Васіля БУРНОСАВА (1914—1984). Апублікаваў шэраг артыкулаў аб творчасці беларускіх і рускіх пісьменнікаў.**

**27 жніўня — 110 гадоў з дня нараджэння літоўскага пісьменніка, грамадскага дзеяча Людаса ГІРЫ (1884—1946). Быў знаёмы з Я. Купалам, З. Бядулем, Цёткай, К. Буйло. На беларускую мову яго вершы перакладалі А. Астапенка, А. Вольскі, С. Дзяргай, М. Лужанін.**

**27 жніўня — 60 гадоў з дня нараджэння ўкраінскага паэта Уладзіміра ЛУЧУКА (1934—1992). Беларуская тэма гучала ў яго вершах «Свіцязь», «Хатынь», «Фенікс-Мінск», «Вязынка» і іншых. На ўкраінскую мову пераклаў асобныя вершы М. Багдановіча, М. Танка, Р. Барадуліна, Л. Геніюш, С. Гаўрусёва і іншых паэтаў. У 1978 годзе ў Мінску выйшла кніга У. Лучука для дзяцей «Возера-Бульдозера» ў перакладзе Р. Барадуліна і В. Зуёнка. Вершы У. Лучука па-беларуску ўзнаўлялі таксама У. Караткевіч, С. Панізнік, М. Рудкоўскі, С. Законнікаў...**

**30 жніўня — 190 гадоў з дня нараджэння паэта, фалькларыста, сябра А. Міцкевіча Аляксандра ХОДЗЬКІ (сапраўднае прозвішча Барэйка, 1804—1891).**

***Гэты матэрыял колькі гадоў назад ягоны аўтар прачытаў па радыё «Свабода». А пасля ён трапіў з Мюнхена ў «ЛіМ». І хоць гады гэтыя былі вунь якія бурлівыя, напоўненыя шматлікімі і неардынарнымі падзеямі, тым не менш аповяд пра адну з бальшавіцкіх прыдумак, як кажуць, не састарэў і, думаецца, уяўляе несумненную цікавасць і для сённяшняга лімаўскага чытача.***

# БАЛЬШАВІЦКАЯ ПРЫДУМКА

## ГІСТОРЫЯ СТВАРЭННЯ Ў БССР КОЙДАНАЎСКАГА АЎТАНОМНАГА ПОЛЬСКАГА РАЁНА

Вясной 1989 года група беларускіх літаратараў, крытыкаў і літаратуразнаўцаў прымала ўдзел у канферэнцыі, прысвечанай беларуска-польскім літаратурным сувязям, арганізаванай факультэтам Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. Сярод беларускіх удзельнікаў гэтай цікавай канферэнцыі быў і вядомы паэт, крытык і літаратуразнаўца, прафесар Алег Лойка. Сваімі ўражаннямі ад канферэнцыі ён падзяліўся на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» ў нумары за 16 чэрвеня ў артыкуле пад загалоўкам: «Тут адчуваецца подых гісторыі...». У ім, апрача шматлікіх іншых пытанняў польска-беларускіх сувязей, А. Лойка закрануў і пытанне існавання ў перадваеннай Савецкай Беларусі Койданаўскага аўтаномнага польскага раёна імя Фелікса Дзяржынскага.

Каментуючы даклад польскага ўдзельніка канферэнцыі К. Вазнякоўскага, прысвечаны аналізу польскага літаратурнага руху ў Беларусі 1919—1989 гадоў, Лойка піша: «З даклада К. Вазнякоўскага мы даведаліся таксама аб **малазнаным** у нас факце існавання да вайны ў Савецкай Беларусі Койданаўскага аўтаномнага рэгіёна імя Фелікса Дзяржынскага, у якім у **шчыльнай паласе жыло 44 тысячы палякаў»**.

Гэтыя словы А. Лойкі паказваюць, з аднаго боку, як старанна скрывала партыйная гістарыяграфія ад народа непрыемныя для савецкага кіраўніцтва факты і эксперыменты ў савецкай нацыянальнай палітыцы, з другога ж, выяўляе залішнюю даверлівасць аўтара, ягоную слабую арыентацыю ў пытанні польскай меншасці як у даваеннай Савецкай Беларусі, гэтак і ў сучаснай БССР. Сцвярджэнне, што ў прыгаданым рэгіёне «ў шчыльнай паласе жыло 44 тысячы палякаў», гучыць ненавукова і нават наіўна. Усё гэта і змусіла нас заняцца пытаннем эксперыменту ў савецкай нацыянальнай палітыцы адносна польскай меншасці ў Беларускай ССР у 20—30-х гадах.

Як вядома, апошнім часам, у сувязі з працэсам так званай «перабудовы» і «галоснасці» ў Савецкім Саюзе, у Польшчы пачалі ўсё больш цікавіцца праблемамі і лёсам польскай меншасці ў СССР. На гэтую тэму з'явілася ўжо некалькі навуковых прац і артыкулаў у польскім перыядычным друку. (На эміграцыі гэтаму пытанню прысвяціў сваю працу «Лёс палякаў у СССР ў 1939—1986 гадах» польскі аўтар Юльян Сядлецкі. Праца гэтая, у 404 старонкі, выйшла ў 1987 годзе ў Лондане).

Сярод гэтых прац і артыкулаў для нас пэўную цікавасць можа мець артыкул даследчыка Мікалая Івана пад загалоўкам «Палякі на далейшых ускраінах», што быў змешчаны ў варшаўскім тыднёвіку «Палітыка», у нумары за 19 сакавіка 1988 года. У ім аўтар робіць спробу асвятліць адну з найбольш, на ягоную думку, «белых плямаў» у гісторыі польска-савецкіх адносін, а менавіта — гісторыя польскай меншасці ў Савецкім Саюзе ў 20—30-х гадах і ўтварэнне двух аўтаномных польскіх рэгіёнаў — імя Юльяна Мархлеўскага на Украіне і імя Фелікса Дзяржынскага ў Беларусі. Утварэнне гэтае аўтар назваў савецкім эксперыментам у галіне нацыянальнай палітыкі СССР, сутнасць якога заключалася ў наданні мясцоваму польскаму насельніцтву шырокай нацыянальнай аўтаноміі там, дзе яно жыло кампактнай масай.

Паводле М. Івана ў палове дваццатых гадоў эксперымент гэты мала вылучаўся на фоне савецкай нацыянальнай палітыкі, мэтай якой у той час было пашырэнне праваў усіх без выключэння нярускіх народаў СССР. Згодна з пастановамі X з'езда РКП(б) у сакавіку 1921 года, накіраванымі на заваёву давер'я нярускіх народаў, па ўсёй краіне праводзілася карэнізацыя — прызначэнне на партыйныя і дзяржаўныя пасады прадстаўнікоў насельніцтва, звязанага этнічна з дадзенай тэрыторыяй, пераход партыйнага і дзяржаўнага апарату ў нацыянальных раёнах на родную мову, увядзенне нацыянальных моў нават у вайсковых часцях, шырокае развіццё нацыянальных культур і да таго падобнае.

На Беларусі палітыка гэтая называлася беларусізацыяй, на Украіне — украінізацыяй, у Татарскай аўтаномнай рэспубліцы — татарызацыяй, у Азербайджане — туркізацыяй і гэтак далей. Вось у рамках гэтай нацыянальнай палітыкі і былі ўтвораны прыгаданыя два аўтаномныя польскія рэгіёны.

Артыкул М. Івана ў тыднёвіку «Палітыка» цікавы хоць бы ўжо тым, што ў ім наогул закранаецца гэтае пытанне. Аднак у ім ёсць адна вялікая загана: аўтар (зрэшты, як і амаль усе польскія аўтары) вызначае нацыянальнасць паводле веравызнання, залічаючы ўсіх беларусаў-католікаў да польскай этнічнай групы, штучна павялічваючы такім чынам колькасць палякаў у тагачаснай БССР з 96 тысяч да 300, што, зразумела, зніжае вартасць самога артыкула, зводзіць некаторыя сцвярджэнні да абсурду. Гэтая акалічнасць змусіла нас тым больш заняцца гэтым пытаннем. Асабліва таму, што ў беларускай савецкай гістарычнай навуцы эксперымент з польскай меншасцю ў Савецкай Беларусі ў 20—30-х гадах да гэтага часу наогул замоўчваўся, у выніку чаго, як кажа А. Лойка, факт існавання Койданаўскага аўтаномнага польскага рэгіёна «малазнаны».

На Захадзе гэтай тэме значнае месца прысвяціў беларускі эміграцыйны аўтар Г. Паланевіч у сваёй працы «Нацыянальная тэорыя і практыка бальшавізму ў Беларусі», надрукаванай у 12-ай кнізе «Беларускага зборніка», што выйшаў у Мюнхене ў 1960 годзе. На гэтай працы, у асноўным, мы і грунтуем нашу гаворку.

Як вядома, усесаюзны перапіс насельніцтва, праведзены ў 1926 годзе, лічыцца найбольш поўным і бесстаронім савецкім перапісам. Вось жа паводле дадзеных гэтага перапісу, у тагачаснай БССР беларусаў было 80,62 працэнта, яўрэі, расійцы і палякі былі найбольш шматкольkаснымі нацыянальнымі меншасцямі.

Усе гэтыя нацыянальныя меншасці, за выключэннем, зразумела, расійцаў, да рэвалюцыі знаходзіліся пад такім жа нацыянальным і рэлігійным прыгнётам, як і беларусы. Асаблівыя цяжкасці перажывала яўрэйскае насельніцтва. Сярод яго былі моцна распаўсюджаны рэвалюцыйныя, нацыяналістычнай афарбоўкі ўплывы БУНДа і рэлігійна-нацыяналістычныя настроі.

Сацыялістычныя настроі з перавагаю польскага патрыятызму, пад моцным уплывам каталіцкай царквы (духавенства было амаль цалкам польскай нацыянальнасці), авалодалі не толькі нязначнай (паводле перапісу 1926 года — 96 тысяч) польскай меншасцю, але і значнай колькасцю беларусаў каталіцкага веравызнання.

Ранейшы эканамічны, сацыяльны, нацыянальны і рэлігійны прыгнёт спрычыніўся да ўмацавання салідарнасці і нацыянальнага адзінства гэтых меншасцей, што, безумоўна, не было ў інтарэсах бальшавізму. Завяванне сімпатый сярод некаторых меншасцей ускладнялася існаваннем побач з БССР самастойных нацыянальных дзяржаў, зусім нязвязаных і непадпарадкаваных савецкай імперыі. Дзеля таго, каб разбіць гэтае нацыянальнае адзінства і, як гаварыў Ленін, «рукамі саміх жа нацыяналаў», разбураць іх знутры і перацягваць на свой бок, яшчэ недастаткова было аднаго толькі абвяшчэння раўнапраўнасці чатырох «дзяржаўных моў БССР», як гэта было зроблена ў час беларусізацыі. Неабходна было правесці якія-небудзь мерапрыемствы больш канкрэтныя.

Бальшавікі перш за ўсё звярнулі ўвагу на яўрэйскае насельніцтва, на змяншэнне галечы беларускіх мястэчак і гарадоў. Не меншую ўвагу звярнулі яны і на польскую меншасць у БССР, колькасны склад якой у сапраўднасці далёка не адпавядаў дадзеным нават перапісу насельніцтва 1926 года, але не ў сэнсе, што, як мяркуе М. Іван, іх было больш, а наадварот — іх было значна менш!

Як адзначае ўспомнены Г. Паланевіч, некаторая частка карэннага польскага насельніцтва ў выніку перамяшчэння насельніцтва, выкліканага Першай сусветнай вайной, грамадзянскай і савецка-польскай войнамі 1919—20 гадоў, асела ў гарадах Беларусі, але большасць яго пасля заканчэння савецка-польскай вайны і ў часе яе эвакуавалася ў Польшчу. Сярод аселага, сталага насельніцтва, пераважна сельскага, была толькі нязначная частка польскай меншасці, якая ў канцы XIX і пачатку XX стагоддзяў, у сувязі з зямельным голадам у карэннай Польшчы, перасялілася ў Беларусь. Гэтыя польскія сяляне-перасяленцы арандавалі тады або пры дапамозе банка адкуплялі зямлю ў памешчыкаў і сяліліся цэлымі вёскамі, як, напрыклад, вёска Пушча, што на Лепельшчыне.

Астатняя частка «статыстычных» палякаў была ў сапраўднасці беларускім насельніцтвам, але каталіцкага веравызнання, якое атаясамлівалася з польскай нацыянальнай прыналежнасцю. У штодзённым жыцці гэтая частка насельніцтва карысталася беларускай мовай і толькі ў рэдкіх выпадках, пераважна сутыкаючыся з польскім каталіцкім духавенствам, гаварыла з ім на ламанай польскай мове, якой не валодала.

Зрэшты, падобны феномен назіраецца яшчэ і сёння ў Беларусі, дзе, як сцвярджае А. Лойка ў прыгаданым артыкуле ў «ЛіМе», толькі 8 працэнтаў статыстычных беларускіх палякаў за родную мову ўважаюць польскую. Факт, які польскія аўтары ігнаруюць або з якім не хочуць лічыцца.

Гэтая група насельніцтва адрознівалася ад рэшты беларускай сялянскай масы толькі тым, што захавалася як дробнашляхецкая група часоў Вялікага княства Літоўскага, жыла не ў вёсках, а ў невялікіх засценках ці «аколіцах», часам мела малыя фальваркі і хутары, а часам і вялікую колькасць зямлі і лепшы спосаб вядзення гаспадаркі. Усе народныя беларускія звычаі і традыцыі якраз у гэтай групе наймацней і найбольш устойліва захаваліся.

У часы НЭПа на адказных пасадах у Менску знаходзілася невялікая, але даволі энергічная група польскіх камуністаў, якія імкнуліся ўзяць у свае рукі кіраўніцтва практычным ажыццяўленнем нацыянальнай палітыкі партыі сярод польскага насельніцтва Беларусі. Дзеля таго, што сапраўднага польскага насельніцтва было мала (паводле ўсесаюзнага перапісу 1926 года іх было 96 тысяч чалавек), яны звярнулі ўвагу на беларускую шляхту каталіцкага веравызнання і пачалі сярод яе паланізацыйную акцыю. Сярод гэтай групы вылучаліся Багуцкі, Славінскі, Бэнак,Ваноўскі, Гельтман і іншыя.

Каб паказаць так званы «росквіт нацыянальных культур» насельніцтву суседняй Польшчы, дзе ў той час закрываліся польскімі ўладамі беларускія школы, бальшавікі не перашкаджалі ў праводжанні паланізацыйнае акцыі сярод беларускага каталіцкага насельніцтва. Унутранай прычынай гэтай акцыі была неабходнасць хутчэйшага адрыву каталіцкага насельніцтва ад рэлігіі, паралізацыя ўплываў каталіцкага духавенства пры дапамозе той жа польскай мовы. Масавыя выступленні і дэманстрацыі салідарнасці католікаў у сувязі з канфіскацыяй касцельных каштоўнасцей і судовым працэсам каталіцкага духавенства ў 1922 годзе ў Менску выявілі велізарную сілу

